Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!



# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 25 ліпеня 1986 г. № 30 (3336) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.



*Людзі роднага краю*

Ліпнёвы ўзятак.

Пчаляр калгаса «Шлях Леніна» Пінскага раёна А. Р. ГУЛЕВІЧ.

Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.

## ПЕСНЯ — У ПРАЦЫ ПАДМОГА




Напружанае жыццё ў гэтыя дні ў працаўнікоў Хойніцкага раёна, асобныя вёскі якога пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Складаныя абставіны паставілі новыя адказныя задачы перад партыйнымі і савецкімі органамі, рабочымі прамысловых прадпрыемстваў, калгаснікамі.

Аднак нездарма кажуць: песня і ў цяжкую хвіліну — падтрымка, і ў працы — падмога. Радаснай была сустрэча з вакальна-інструментальным ансамблем «Песняры», які выступіў на мясцовым стадыёне.

Фота Я. ПЯСЕЦКАГА.

## СВЯТА ПОЛЬСКАГА НАРОДА

22 ліпеня польскі народ урачыста адзначыў нацыянальнае свята Польскай Народнай Рэспублікі — 42-ю гадавіну адраджэння Польшчы. Гэтай знамянальнай даце былі прысвечаны і мерапрыемствы, якія адбыліся ў нашай рэспубліцы.

Сход прадстаўнікоў грамадскасці сталіцы прайшоў 21 ліпеня. Яго адкрыў сакратар Мінскага гаркома партыі П. К. Краўчанка. Дакладчык — намеснік старшыні Беларускага аддзялення таварыства савецка-польскай дружбы, рэдактар газеты «Звязда» А. Тоўсцік адзначыў, што шлях, пройдзены за гэтыя гады братнім польскім народам, — гэта шлях савецка-польскага брацтва па зброі, станаўлення і развіцця дружбы і супрацоўніцтва паміж нашымі народамі.

Пры жыцці аднаго пакалення ў народнай Польшчы дасягнуты значныя сацыяльныя пераўтварэнні, на новы ўзровень узняты адукацыя, навука, культура, гаварыў на сходзе генеральны консул ПНР у Мінску Я. Рачкоўскі.

42-й гадавіне адраджэння Польшчы прысвечана і Дэкада польскай кнігі, якая праходзіць у дванаццаці гарадах Савецкага Саюза, у тым ліку ў горадзе-герої Мінску. Урачыстае адкрыццё дэкады адбылося ў панядзелак у Доме кнігі. Першы намеснік старшыні Дзяржкамвыда БССР Р. А. Ткачук, пісьменнік Максім Лужанін, генеральны консул ПНР у Мінску Я. Рачкоўскі гаварылі на адкрыцці пра тое, што дружба і супрацоўніцтва паміж польскім і савецкім народамі, кантакты паміж польскім і беларускім народамі прынеслі значны плён і ў галіне творчых узаемасувязей, у прыватнасці ў галіне кнігаабмену. За гады Савецкай улады ў нашай рэспубліцы творы польскіх пісьменнікаў выдаваліся больш як 80 разоў агульным тыражом каля 2 мільёнаў экземпляраў. У Польшчы ж толькі за пасляваенны час кнігі беларускіх аўтараў выходзілі больш як 60 разоў.

У экспазіцыі выстаўкі шырока прадстаўлена палітычная літаратура, у тым ліку творы класікаў марксізму-ленінізму, мастацкая, навукова-папулярная, кнігі для дзяцей і юнацтва, выданні па мастацтве, краязнаўстве.



Адкрыццё выстаўкі польскай кнігі.

Фота А. КАЛЯДЫ.

У дні дэкады выстаўкі польскіх кніг арганізаваны ў многіх бібліятэках Мінска і рэспублікі. Новыя кнігі, якія з'явіліся ў выдавецтвах Польшчы, прапануе мінскі магазін «Дружба».

К. САРАГАВЕЦ.

## Джэй Хіггінботам: «Кожны мае надзею на будучае»

Па запрашэнні Дзяржаўнага камітэта СССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю ў Савецкім Саюзе знаходзіцца амерыканскі празаік і публіцыст Джэй Хіггінботам, які жыве ў горадзе Мобайл штата Алабама. На творчым рахунку Д. Хіггінботама — дванаццаць кніг, што адзначаны пяццю літаратурнымі нацыянальнымі прэміямі.

У нашу краіну амерыканскі госць прыязджае ў чарговы раз. Першае яго знаёмства з Краінай Саветаў адбылося яшчэ ў 1966 годзе, калі ён зрабіў падарожжа па Савецкім Саюзе ад порта Находка да Масквы. У выніку гэтай паездкі з'явілася кніга дарожных нарысаў «Хуткі поезд «Расія», якія ў свой час у перакладзе на рускую мову публікаваліся на старонках часопіса «Дальний Восток». У 1982 годзе асобнай кнігай іх выпусціла адно з нью-йоркскіх выдавецтваў.

Дваццаць гадоў, якія мінулі з часу першай паездкі, Д. Хіггінботам уважліва сачыў за зменамі, што адбываюцца ў сацыяльным, эканамічным і культурным жыцці савецкага народа. Калі ж выдавецтва «Прогресс» прапанавала яму напісаць яшчэ адну кнігу пра нашу краіну, Д. Хіггінботам ахвотна згадзіўся. Адразу ж узнікла і назва будучага твора — «Хуткі поезд «Расія». Праз дваццаць гадоў».

**ІНТЭРВ'Ю Ў НУМАР**

# З ГРЫФАМ «МАСТАЦКАЙ ЛІТАРАТУРЫ»

У ЧАС нядаўняй сустрэчы з пісьменнікамі — дэпутатамі Вярхоўнага Савета СССР, якія ўдзельнічалі ў рабоце яго пятай сесіі, і групай літаратараў сталіцы Генеральны сакратар ЦК КПСС таварыш М. С. Гарбачоў адзначыў, што савецкія пісьменнікі ніколі не адгароджваліся ад трывог сучаснага свету, ад жыцця народа. Іменна ў гэтым і заключаецца маральная сіла савецкага мастацтва. Натуральна, што цяпер, калі ідзе суровая барацьба сіл міру і вайны, разгортваецца работа па абнаўленні ўсіх сфер жыцця савецкага грамадства, слова пісьменніка, голас мастака асабліва важны, асабліва ўплывовы. Літаратары могуць адыграць значную ролю ў ажыццяўленні псіхалагічнай, маральнай перабудовы, у барацьбе з негатыўнымі з'явамі... Сёння ёсць вострая патрэба ў творах, у якіх высокамастацка раскрываліся б сучасныя канфлікты, рэальныя калізіі, адчуваўся б напал барацьбы за ажыццяўленне намечаных задач, якія ўсялялі б упэўненасць у перамозе ідэй і задум XXVII з'езда КПСС, усталёўвалі б сапраўдныя чалавечыя каштоўнасці.

Вялікія задачы перад савецкай літаратурай былі пастаўлены і на VIII з'ездзе пісьменнікаў СССР. Падкрэслівалася, што на партыйную свядомасць майстроў слова разлічвае Камуністычная партыя, востра і патрабавальна паставіўшы на сваім XXVII з'ездзе пытанне аб павышэнні грамадскай аддачы літаратуры і мастацтва.

Зразумела, важкія высокаідэйныя і высокамастацкія творы не з'явяцца адразу, для напісання іх патрэбен час і, як перадумова, талент творцаў, глыбокае веданне жыцця, надзённых праблем развіцця грамадства, адчуванне пульсу часу. Аднак агульная скіраванасць на павышэнне грамадскай аддачы літаратуры ўжо сёння дае аб сабе знаць пры складанні перспектыўных выдавецкіх планаў, у якіх першачарговая ўвага ўдзяляецца творам, што адпавядаюць задачам дня.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» ў гэтым сэнсе не выключэнне. Пра тэматычны план выдавецтва на 1987 год расказвае яго галоўны рэдактар **Серафім АНДРАЮК:**

— Напачатку некалькі лічбаў, якія яскрава сведчаць аб павелічэнні выпуску мастацкай літаратуры ў рэспубліцы. Летась пабачыла свет 167 назваў агульным тыражом 8,8 мільёна экземпляраў. Сёлета выйдзе 175 назваў кніг, у наступным годзе разам з рэзервам — 180. Вядома, колькасць сама па сабе яшчэ нічога не гаворыць, асабліва калі справа тычыцца мастацкай творчасці.

Аднак відавочна і павышэнне ідэйна-мастацкага ўзроўню кніг, якія мы выпускаем. Гэта важна цяпер, калі савецкія людзі знаходзяцца пад уражаннем гістарычных рашэнняў XXVII з'езда КПСС, што аказалі ўплыў на ўсе сферы жыцця нашага грамадства. 1987 год — год адметны. Спаўняецца 70 гадоў Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Творы, прысвечаныя гэтай знамянальнай даце, займаюць у тэматычным плане адметнае месца.

У палепшаным выданні на рускай і ў перакладзе на беларускую П. Броўкам выйдзе паэма У. Маякоўскага «Уладзімір Ільіч Ленін». Калектыўны зборнік «Ідзе Кастрычнік па зямлі» — гімн рэвалюцыі, неўміручасці ленінскіх ідэй, ідэй Кастрычніка, у якім прагучаць галасы многіх паэтаў свету. Лепшыя вершы беларускіх паэтаў розных пакаленняў, якія ўслаўляюць прыгажосць і праўду нашых ідэй, імкненне людзей да міру, выкрываюць чалавеканенавісніцкую мараль сучаснага імперыялізму, апяваюць дружбу і братэрства людзей, узаемаразуменне і супрацоўніцтва паміж народамі, складуць зборнік «Слова міру і праўды».

Да 70-годдзя Вялікага Кастрычніка рыхтуюцца і калектыўныя зборнікі «Песня аб Беларусі» і «Песня пра Расію». У першы ўвойдзе ўсё лепшае з з рускай Беларусіяны — вершы А. Твардоўскага, М. Ісакоўскага, А. Пракоф'ева і іншых вядомых паэтаў. Другі складуць вершы паэтаў Беларусі, што ўслаўляюць братнюю Расію і яе народ.

Новыя творы беларускіх паэтаў прадстаўлены ў кнізе «Гары, агонь Кастрычніка».

Артыкулы вядомых беларускіх пісьменнікаў і крытыкаў А. Адамовіча, Д. Бугаёва, В. Каваленкі, У. Юрэвіча і іншых, прысвечаныя актуальным праблемам развіцця сучаснай літаратуры, будуць змешчаны ў калектыўнай кнізе «На перадавых пазіцыях».

Тэма рэвалюцыі, Леніна знойдзе сваё адлюстраванне таксама і ў штогодніках «Братэрства» і «Далягляды».

Дастойнае месца ў тэматычным плане займаюць і новыя, і раней напісаныя творы нашых народных паэтаў і пісьменнікаў — творы, якія адлюстроўваюць веліч духу савецкага чалавека, услаўляюць яго гуманістычнасць. Выйдуць кнігі «Лірыка» М. Танка, «Далучанасць» П. Панчанкі, «Ад сяўбы да жніва» Я. Брыля, «Кар'ер» В. Быкава.

Зразумела, будуць садзейнічаць вырашэнню праблем, якія пастаўлены партыяй перад грамадствам, кнігі сучаснай тэматыкі. Адлюстроўваць яе на высокім ідэйна-мастацкім узроўні працягваюць вядомыя беларускія празаікі. Нельга не назваць такія кнігі, як «Святыя грэшнікі» А. Асіпенкі, «Асеннія мелодыі» І. Навуменкі, «Красна хата не толькі пірагамі» І. Дуброўскага, «Ачышчэнне» І. Новікава, «Сад» В. Казько, «Горкая радасць вяртання» Б. Сачанкі і іншыя. Творы гэтыя аб'ядноўвае выразнасць грамадзянскай пазіцыі аўтараў, іх сацыяльная актыўнасць. Адлюстроўваючы сучаснасць, пісьменнікі адначасова вяртаюцца і ў дзень учарашні, да перажытага народам у гады барацьбы з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Чалавечая памяць у такім разе пачынае выступаць своеасаблівым каталізатарам думкі, з вышыні пройдзенага лепш бачыцца тое, што здзейснена, і гэтаксама выразна вымалёўваюцца праблемы, якія неабходна вырашаць.

Як і ў ранейшыя гады, удзяляем увагу выпуску дакументальна-мастацкай літаратуры, кніг, якія зместам сваім адказваюць на надзённыя праблемы дня, напісаны ў рэчышчы тых задач, якія ставіць партыя перад ідэалагічнымі работнікамі. У прыватнасці, аповесць-эсэ А. Казловіча «На маёй далоні лінія ракі» прысвечана шматграннай тэме аховы прыроды, беражлівага выкарыстання яе рэсурсаў, пытанням узаемаадносін чалавека і навакольнага асяроддзя. Героі кнігі Л. Левановіча «Хлеб і мужнасць» — нашы сучаснікі: аграном з палескага калгаса, ляснічы, настаўніца, механізатар, а таксама беларусы, якія жывуць на цаліне. У зборніку нарысаў «Вясковы дыспут» В. Якавенка, як і ў сваіх папярэдніх кнігах, паказвае жыццё сённяшняй беларускай вёскі, працаўнікі якой заняты выкананнем Харчовай праграмы СССР.

Вайна для нашага народа і памяць, і боль, і мужнасць. Не выпадкова, што беларускія пісьменнікі не могуць не звяртацца да гэтай неўміручай тэмы. Акрамя ўжо згаданай аповесці В. Быкава «Кар'ер», выйдуць раманы А. Кузьміновіча «Падпольная клічка — Янаш», А. Савіцкага «Верасы» і іншыя.

Аповесць В. Коўтун «Крыж міласэрнасці» прысвечана жыццю паэтэсы-рэвалюцыянеркі Цёткі (Алаізы Пашкевіч), 110-годдзе з дня нараджэння якой адзначана сёлета. У рамане «Тайна Чорных гор» М. Чаргінец расказвае пра геранічную барацьбу афганскага народа з контррэвалюцыяй.

Па рэдакцыі паэзіі таксама будуць прадстаўлены аўтары розных пакаленняў, творчых індывідуальнасцей, творы якіх сугучны нашаму часу, народжаны ім, напоўнены праблемамі нашага жыцця. Гэта кнігі «Вярнуся ветрам» М. Лужаніна, «Повязь» Н. Гілевіча, «Вызначэнне» В. Зуёнка, «Асенняя пошта лістоты» П. Макаля, «Каліна зімы» Я. Янішчыц, «Сутнасць» С. Законнікава, «Каханне» Р. Баравіковай, «Спадчынны боль» Т. Бондар... Далучаным да жыцця адчувае сябе і лірычны герой зборнікаў маладзейшых — «Ліст рабіны»



Джэй Хіггінботам (другі злева) гутарыць з беларускімі пісьменнікамі.

Фота А. КАЛЯДЫ.

**Адзін з маршрутаў Д. Хіггінботама пралёг па Беларусі. У час прыезду ў Мінск амерыканскі госць сустрэўся з беларускімі пісьменнікамі ў гаворцы, якую вёў першы сакратар праўлення СП БССР Н. Гілевіч, прынялі ўдзел А. Жук, В. Зуёнак, В. Казько, Р. Барадулін, В. Вітка, А. Вярцінскі, А. Русецкі...**

**Пазнаёміўшы Д. Хіггінботама з жыццём пісьменніцкай арганізацыі рэспублікі, Н. Гілевіч звярнуў увагу на тое, як у беларускай літаратуры адлюстроўваецца тэма Вялікай Айчыннай вайны, тэма барацьбы савецкага народа з нямецкім фашызмам. Ён падкрэсліў, што пра вайну пішуць і тыя, хто сам прымаў удзел у ёй, і літаратары, якія суровую навалу перажылі ў дзіцячым узросце, і аўтары, што нарадзіліся ў пасляваенны час. Гэта заканамерна: наш агульны абавязак, падкрэсліў Н. Гілевіч, памятаць аб перажытым, змагацца за мір.**

**Д. Хіггінботам, дзелячыся ўражаннямі ад знаёмства з Беларуссю, сталіцай рэспублікі Мінскам, зазначыў, што нельга не здзіўляцца працалюбству народа, дзякуючы чаму за нейкія сорак гадоў горад, разбураны цалкам, падобна птушцы Фенікс, узняўся з прысаку. Кожны на беларускай зямлі мае надзею на будучае, а для таго, каб мір перамог, нельга забываць урокаў мінулага. Я звычайны просты амерыканец, працягваў госць, чалавек, які належыць да таго пакалення, што і беларускія дзеці, якія перажылі вайну і многія з якіх загінулі ў гады вайны...**

**Моўчкі схіляючы галаву перад *абеліскамі Беларусі, сказаў* Д. Хіггінботам, я перакананы, што толькі ўзаемнае супрацоўніцтва і канструктыўныя дзеянні вядуць да міру, а не разлад і злосць у адносінах паміж народамі. Калі мы будзем працаваць разам, справамі сваімі ўзвядзём велічны помнік загінуўшым.**

**У час гаворкі былі закрануты таксама іншыя аспекты літаратурнага жыцця пісьменнікаў ЗША і нашай краіны.**

**НАШ КАР.**

---

У. Марука, «Ружа вятроў» М. *Мятліцкага*...

У апошні час шмат гучыць нараканняў у адрас крытыкі. У ным толькі яе ні папракаюць— і ў адсутнасці баявітасці, і ў адставанні ад бягучага літаратурнага працэсу, і ў кампліментаршчыне. Але ж у рэспубліцы ёсць нямала крытыкаў, літаратуразнаўцаў, якія з гонарам нясуць гэтае нялёгкае і адказнае званне. Кнігі пасобных з іх выходзяць у наступным годзе — «Тварэнне легенды» У. Калесніка, «Крытыка: яе клопаты, праблемы» М. Мушынскага, «Класікі і сучаснікі» У. Гніламёдава, «Галоўнае — талент» Г. Шупенькі...

Своеасаблівая серыя «пісьменніцкай крытыкі» папоўніцца кнігай Р. Барадуліна «Парастак радка, галінка верша». Слоўнік прыказак і прымавак, якія выкарыстоўваюцца ў беларускай мастацкай літаратуры,— «Крынічнае слова» — прапануюць Р. Шкраба і І. Шкраба.

Супрацоўнік навукова-даследчага аддзела гісторыі кнігі Дзяржаўнай бібліятэкі СССР імя У. І. Леніна, аўтар работ па гісторыі літаратуры і гісторыі кнігі Ю. Лабынцаў прапануе ўвазе чытачоў зборнік матэрыялаў з жыцця і дзейнасці Францыска Скарыны «Скарынінскі каляндар». Размешчаны яны ў *храналагічнай паслядоўнасці*. Фотатыпічным спосабам узнаўляецца выдадзены Ф. Скарынай «Экклезіастэс», які раней уключаўся ў перакладзе ў 200-ю Бібліятэку сусветнай літаратуры.

Чытач зможа перагарнуць старонкі драматургічных твораў А. Дударава — «Дыялог», У. Караткевіча — «Старыя беларускія хронікі», А. Петрашкевіча — «Соль».

Папулярнасцю карыстаюцца падпісныя зборы твораў вядомых пісьменнікаў, двух- і аднатомнікі выбранага. У 1987 годзе будуць распачаты выпускі збору твораў К. Чорнага— у шасці тамах, Ц. Гартнага — у чатырох, У. Караткевіча — у васьмі. Будзе прадоўжаны выпуск збору твораў П. Броўкі і А. Макаёнка, завершаны — А. Бачылы і К. Кірэенкі. Пабачыць свет двухтомнік выбраных твораў У. Паўлава, аднатомнікі В. Карамазава, М. Стральцова, некаторых іншых пісьменнікаў. Перавыдаюцца творы А. Адамовіча, Д. Бічэль-Загнетавай, Я. Сіпакова, К. Цвіркі, С. Дзяргая, А. Жаўрука...

Шырока будзе прадстаўлена і перакладная літаратура. На беларускай мове выдаецца двухтомная «Анталогія грузінскай паэзіі», двухтомнік «Рускае савецкае апавяданне», раман Й. Авіжуса «Час, калі пусцеюць сядзібы», аповесці Г. Матэвасяна «Мы і нашы горы», зборнікі вершаў Д. Паўлычкі «Таямніца вобліку твайго», А. Шасцінскага «Помню і люблю». На сваёй роднай мове чытач пазнаёміцца з кнігамі У. Шэкспіра «Тры камедыі», Я. Каханоўскага «Песня мая музам», Гі дэ Мапасана «Апавяданні», выйдуць таксама зборнікі «Новая Афрыка», «Балгарская аповесць», «Анталогія сербскай паэзіі».

У міжвыдавецкай усесаюзнай серыі «Бібліятэка савецкага рамана» ў перакладзе на рускую мову выходзяць «Людзі на балоце» І. Мележа і «Вазьму твой боль» І. Шамякіна. Серыя «Белорусская поэзия» папоўніцца зборнікамі Ф. Багушэвіча і М. Калачынскага.

Больш дэталёва з выданнямі, якія выйдуць у наступным годзе, можна пазнаёміцца ў тэматычным плане выдавецтва, *які паступіў ва ўсе кнігарні*. У заключэнне хацелася б сказаць, падкрэсліў С. Андраюк, што 1987 год — гэта адначасова і год правядзення чарговай Маскоўскай міжнароднай выстаўкі-кірмашу, якая праходзіць раз у два гады і ў якой актыўны ўдзел прымае «Мастацкая літаратура». Думаецца, у нашым плане ёсць і такія выданні, што можна з упэўненасцю прапанаваць замежным фірмам і якія зацікавяць замежных чытачоў.

**Запісаў**
**А. ВІШНЕЎСКІ.**

---

**СЛОВАМ ПУБЛІЦЫСТА**

> **«...Ёсць нямала фактаў, калі людзі атрымліваюць непрацоўныя даходы, займаючыся крадзяжамі, спекуляцыяй, хабарніцтвам, іншымі відамі незаконнай дзейнасці.**
>
> **(З пастановы ЦК КПСС «Аб мерах па ўзмацненні барацьбы з непрацоўнымі даходамі.)**

# НЕСУНЫ

У якасці эпіграфа да гэтых нататак мне хацелася працытаваць дакладнае, літаратурнае вызначэнне слова «нясун». У нашай свядомасці гэтае паняцце ўкаранілася так трывала, што, здавалася, існуе здаўна. Таму і пачаў я пошук са слоўніка рускай мовы Ожэгава за 1953 год. І што ж? Тут даецца *адзінаццаць варыянтаў* слова «несці», а «несуна» — няма. У беларускім тлумачальным слоўніку за 1984 год прапануецца аж дванаццаць прыкладаў выкарыстання дзеяслова «несці», а «нясун» таксама адсутнічае.

Мо я памыляюся («хутчэй за ўсё памыляюся, і прычына, з-за якой «згубілі» ў слоўніках таго «несуна», зусім іншая), але мне гэта, па асацыяцыі, нагадала «благаслаўлёны» час, калі той-сёй, надзелены ўладай, наогул адмаўляў існаванне ўсяго, што, на ягоную думку, псавала, так сказаць, агульны выгляд. А калі нельга ўжо было адмаўляць, калі зло лезла проста ў вочы, гаварылася пра «асобныя недахопы». А паспрабуй запярэчыць той асобе, што не ўсе недахопы — «асобныя», *адразу ж можна было пачуць* пагрозлівае: «Хто даў права абагульняць, на чый, дазвольце спытаць, млын льеце ваду?» Ад шматзначнага папроку, будзем шчырыя, не ў аднаго дрыжэлі каленкі. Не абмінула гэта і таго-сяго з пішучай брацііі. Колькі іх з'явілася, кніг, зробленых у поўнай згодзе з чарговым павучэннем, што і як пісаць?! Ды хіба толькі кніг? А спектакляў, а песень? Помніце песеньку з тэлевізійнага серыяла «Следствие ведут знатоки»? Калі нехта, недзе, раптам сумленна жыць не захоча... Вось так.

Маю ўвагу прыцягнула выступленне на VIII з'ездзе пісьменнікаў СССР вядомага малдаўскага літаратара Паўла Боцу, асабліва вось гэтае месца: «Рэмінісцэнцыя трыумфалізму ў літаратуры — гэта тая ж дэфарміруючая аднабокасць, роўна як і тэндэнцыя выключаць з мастацкіх твораў адмоўныя персанажы раней, чым яны знікнуць з жыцця».

Адмоўныя персанажы... Вось яны, калі ласка, не з кніг — з самога жыцця. Хоць бы тыя ж несуны.

Нядаўна мне давялося сустрэцца з імі сам-насам. Я сказаў — нядаўна, але, відаць, трэба назваць канкрэтнае чысло — 2-га ліпеня 1986 года. Тым, хто не помніць, нагадаю — 1-га ліпеня г. г. быў уведзены ў дзеянне Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР «Аб узмацненні барацьбы з атрыманнем непрацоўных даходаў», у якім несуны кваліфікуюцца як асобы, што зрабілі дробны крадзеж дзяржаўнай або грамадскай маёмасці і ў якім пакаранне за гэтыя злачынствы павялічана. Могуць цяпер несуна прыцягнуць і да крымінальнай адказнасці. Таму я адразу сказаў капітану Аляксею Адамавічу Валодзіну, начальніку аддзела пазаведамаснай аховы пры Заводскім РАУС г. Мінска, які запрасіў мяне прыняць удзел у аперацыі па выяўленні несуноў на падшыпнікавым заводзе, што, відаць, сёння ў іх ніякага «ўлову» не будзе, бо толькі-толькі пачаў дзейнічаць указ, а на самым пачатку ўказы і пастановы маюць найбольшую сілу. Аляксей Адамавіч ледзь прыкметна ўсміхнуўся і прамовіў: «Паглядзім». Усміхнуліся, пачуўшы маю заўвагу, і ўсе прысутныя — паўтара дзесятка супрацоўнікаў аддзела, якіх Валодзін сабраў на інструктаж з нагоды сённяшняй аперацыі.

Адзін з іх — чарнявы, хуткі ў рухах малады чалавек — пачаў расказваць, як учора, 1-га ліпеня, ён з дзяўчынай—супрацоўніцай аддзела затрымаў на малочным заводзе кабету *даволі буйных габарытаў, якая* намерылася вынесці «на сабе» вялікі клінковы сыр і восем пачак масла. Я не прыводжу тое месца ў яго расказе, што тычылася «тайнікоў», дзе жанчына схавала ўкрадзенае, бо гэта будзе гучаць проста нясмачна, але жанчына-кантэйнер — рэальнасць, як праўда і тое, што, расстаючыся з «набыткам», яна, па словах расказчыка, не толькі не саромелася, але яшчэ і ўзнагародзіла «вінаватых» у яе затрыманні моцнымі эпітэтамі, а на развітанне паабяцала, што як насіла, так і будзе насіць, бо так робяць усе, а *яна не горшая за іншых*.

Помню, адразу пасля вайны мы, гарадскія падлеткі, не вельмі сытыя, але ўсё ж і не галодныя, хлеб, хоць па картках, нам выдавалі, з уласцівым гэтаму ўзросту максімалізмам вельмі абураліся, прачытаўшы ў газеце чарговую нататку пра суд над збіральнікамі каласкоў. «Як можна красці ў спустошанай вайной краіне? — крычалі мы. — Яшчэ мала ім «даюць»!».

І толькі пазней, калі на самым пачатку пяцідзесятых гадоў я, пасля універсітэта, паехаў працаваць у раён, пасля таго, як паездзіў па калгасах, дзе працадзень быў чыста абстрактным паняццем, бо на яго па многу год нічога не давалі, як паглядзеў на жыццё пасляваеннай вёскі, — зразумеў, што ніколі не трэба спяшацца з высновамі...

Хай мяне зразумеюць правільна—*я не збіраюся заднім* чыслом апраўдваць усіх, хто ў тыя гады кваліўся на грамадскую маёмасць. І сярод іх былі розныя людзі. Я хачу толькі сказаць, што магу калі не апраўдаць, дык зразумець галоднага чалавека (а тады было нямала такіх), які ўкраў, скажам, бохан хлеба ці накапаў чужой морквы.

Ну, а як зразумець тую кабету з малочнага завода? Хоць трэсні, а наўрад ці з'ясі ўсё тое масла і сыр, што яна цягне дадому, як і не з'есці самім несунам усяго таго, што яны крадуць на базах, складах, заводах, камбінатах, у магазінах. Але не турбуйцеся, чытач, за іх страўнікі—пераварaць. Ды, зрэшты, не праблема ператварыць тую вяндліну ў грошы. Я чуў, што ў многіх несуноў ёсць свая кліентура...

Дык у чым, таварышы, справа? Які вірус адолеў тысячы людзей, ды так адолеў, што дзяржава змушана сябе абараняць шляхам ужывання жорсткіх мер у барацьбе з непрацоўнымі даходамі, змагацца з *праявамі сацыяльнай несправядлівасці*?

У нядаўнім інтэрв'ю па радыё адзін з кіраўнікоў Міністэрства ўнутраных спраў БССР на пытанне журналіста — чаму распладзілася столькі несуноў? — не задумваючыся, адказаў, што прычына тут адна: слабы кантроль на прадпрыемствах, дрэнна наладжаны ўлік прадукцыі і г. д. Паважаны кіраўнік не падазраваў, відаць, што гаворыць пра вынікі, а не пра вытокі...

Кажуць, бяруць тое, што дрэнна ляжыць. Але гэта спакуса толькі для несумленнага чалавека. Дык ці не маем мы справу з пэўным дэфіцытам *сумлення* (бачыце, і такі дэфіцыт існуе, толькі за ім няма, на жаль, чэргаў).

Кожная з'ява грунтуецца на пэўнай глебе. Якое ж семя дало такія атрутныя ўсходы? Мне здаецца, тут ёсць толькі адзін адказ — семя нажывы. Так, мы сталі жыць лепей. Ма-тэ-ры-яль-на. Але ці не занадта многа ў нас стала «матэрыялістаў» у тым сэнсе, што матэрыяльнае ў іх не толькі перамагае — вынішчае ўсё духоўнае? І вось мы ўжо з абурэннем гаворым аб прагматызме многіх сучасных маладых людзей, аб тым, што для іх не існуе нічога святога. *Яны могуць гаварыць* і пра высокія матэрыі, ды толькі тады, калі гэта ім выгадна.

Чую голас той, некалі важнай асобы, а цяпер мо ўжо і пенсіянера: «Зноў абагульняеце? За дрэвамі не бачыце лесу?» Бачу і лес, ды вось накіпела на сэрцы, таму і перабольшваю.

Мо трапяць гэтыя нататкі на вочы несуну. Прачытае ён і скажа: во накруціў аўтар! Матэрыя, душа, ідэя... Якая душа, абурыцца, калі жонка ці не кожны дзень папракае — вунь у суседзяў тры дываны і свяцільнік хрустальны, а ў нас што?

Але буйным планам я вам несуна яшчэ не паказаў. Дык вось — пра аперацыю, аб якой нагадаў на пачатку гэтых нататак.

Шчыра кажучы: выбар падшыпнікавага завода як аб'екта «даследавання» крыху мяне здзівіў. Ну, *малочны завод*, мясакамбінат, кандытарская фабрыка, пладовагароднінная база — тут усё зразумела, тут усё нібы само ліпне да рук. А падшыпнікавы завод, маторны, аўтаматычных ліній? Жалеза — яно жалеза і ёсць.

Як я памыляўся! Але ўсё па парадку.

Да шаснаццаці гадзін — канца першай змены — супрацоўнікі пазаведамаснай аховы, апранутыя, вядома, у цывільнае, з партатыўнымі рацыямі, схаванымі пад адзеннем, разгрупаваліся *па перыметры заводскай агароджы*. Мы з кіраўніком групы старшым інспектарам аддзела капітанам Анатолем Міхайлавічам Клімянковым займаем месца на цэнтральнай прахадной.

16.15. У кабінет начальніка ваенізаванай аховы Івана Фёдаравіча Клюшава ўводзяць першага «пацярпеўшага». Сярэдніх гадоў паўнаваты мужчына, вочы напалоханыя. Супрацоўнік аддзела, які яго затрымаў, перакульвае над сталом невялікую торбу, з якой з грукатам ляцяць падшыпнікі. Адзінаццаць штук. Клімянкоў, патрымаўшы ў руках кожны, упэўнена кажа: дэфіцытныя, для легкавых аўтамабіляў, матацыклаў, трактароў. Пачынаецца складанне акта. Затрыманы — Таболін Яўген Лявонцьевіч — працуе тут электрыкам дваццаць гадоў. Спачатку ўпарціцца — не, ён нічога не выно;

**(Заканчэнне на стар. 4).**

# КНІГАПІС



Janka Bryl
Świt ujrzany
z daleka

Я. БРЫЛЬ. Золак, убачаны здалёк. Аповесць. На польскай мове. Кракаў, Літаратурнае выдавецтва, 1986.

**Аповесць Янкі Брыля «Золак, убачаны здалёк», адзначаная ў нас Дзяржаўнай прэміяй БССР імя Якуба Коласа, перакладзена ўжо не на адну мову. Нядаўна яна ўбачыла свет на польскай мове. Гэта не першы твор Я. Брыля, перакладзены на мову нашых заходніх суседзяў, не першая кніга пісьменніка, выдадзеная у братняй Польшчы, але, вядома, гэта і прыемная падзея ў яго жыцці, і яшчэ адно сведчанне сталых польска-беларускіх літаратурных кантактаў.**

**Не менш радаснай падзеяй з'яўляецца выхад аповесці Я. Брыля для перакладчыцы Анны Сабэцкай; гэта яе першая кніжная публікацыя. Да таго часу А. Сабэцкая рабіла пераклады з беларускай мовы для радыё і для часопісаў «Одра» і «Камена». Выхад кнігі паказвае, што наша літаратура мае ў Польшчы яшчэ аднаго сталага сябра і прапагандыста, які ўмее на дастаткова высокім узроўні перакладаць празаічныя творы.**

**К. РАСІНСКІ.**

Дзмітрый
Палітыка
ЯНКА
КУПАЛА—
перакладчык



Д. ПАЛІТЫКА. Янка Купала—перакладчык. Літаратурна-крытычныя артыкулы. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1985.

**Літаратуразнавец і крытык Дзмітрый Палітыка выступаў у друку з літаратурна-крытычнымі артыкуламі і рэцэнзіямі ў канцы саракавых—пачатку шасцідзесятых гадоў. На жаль, сённяшні чытач з яго творчасцю знаёмы слаба, паколькі апошняя—пасмяротная кніга «Сляды часу» выйшла ў 1969 годзе. Ды і не ўсе з артыкулаў вытрымалі, як кажуць, выпрабаванне часам, але лепшыя з іх і цяпер уяўляюць цікавасць.**

**Да падобных работ Д. Палітыкі належыць цыкл літаратурна-крытычных артыкулаў «Янка Купала-перакладчык», што ўваходзіў у кнігу «Сляды часу», а цяпер выпушчаны выдавецтвам «Мастацкая літаратура» асобным зборнікам.**

**Раскрываючы адметнасць перакладчыцкага майстэрства Я. Купалы, аўтар адначасова прасочвае, наколькі цесна беларуская літаратура звязана з іншымі літаратурамі. Гаворка пабудавана такім чынам, што ў асобныя раздзелы вылучаюцца сувязі песняра з пэўнымі літаратурамі.**

**У першым—«Руская класічная паэзія ў перакладах Янкі Купалы»—аналізуецца работа паэта над пераўвасабленнем па-беларуску твораў М. Някрасава, А. Кальцова, А. Пушкіна, «Слова аб палку Ігаравым». Другі раздзел «Янка Купала—перакладчык «Кабзара». З заключнага раздзела «Польская дэмакратычная паэзія ў перакладах Янкі Купалы» бачна, як Я. Купала працаваў над перакладамі твораў М. Канапніцкай, У. Сыракомлі, А. Міцкевіча, У. Бранеўскага і іншых паэтаў.**

**П. ЛЕМЕШ.**

КРЫТЫКА, БІБЛІЯГРАФІЯ

# Тры мудрыя прымаўкі

## ДУМКІ, ЯКІЯ ЎЗНІКАЛІ ПРЫ ЧЫТАННІ РАМАНА НІЛА ГІЛЕВІЧА «РОДНЫЯ ДЗЕЦІ»

**Раіса БАРАВІКОВА**

*Што й казаць: раман у вершах — работа вялікая, і калі зыходзіць з праблем, якія закранаюцца ў творы, і калі думаць пра тое, колькі часу спатрэбілася, каб напісаць — не васьмірадкоўе, не паэму — раман! — з сюжэтнай пабудовай, з характарамі, з маналогам, дыялогам і лірычнымі адступленнямі, якія з'яўляюцца своеасаблівымі пралогамі да кожнай наступнай часткі, да кожнай новай тэмы... Агромністая работа, да ўсяго ж на сённяшні дзень яшчэ і рызыкоўная! Чытач, здаецца, ужо прывык да малых форм, што тлумачыцца нашым побытам: спешка, загружанасць, безліч самай рознай інфармацыі, якую трэба прапусціць праз сябе... Але раман напісаны, раман не ляжыць на паліцах і можа быць прычынай не адной літаратурнай размовы, спрэчкі, дыскусіі, дзе кожны, хто яе пачне, знойдзе для сябе* самае-самае тое, *на чым засяродзіцца ўвага, дзе ўскалыхнецца душа, дзе яна светла ўсміхнецца, дзе цяжка ўздыхне... У любым літаратурным творы для кожнага — свой радок, колькі чытачоў, столькі і густаў. Вось і ў рамане «Родныя дзеці» адны радкі засталіся проста прачытанымі, другія ўзрушылі, растрывожылі; трэція — захліснулі сваім болем, непакоем, трывогай за родную зямлю, за чалавека, за чалавецтва ўвогуле, яны расхвалявалі сэрца, і засталіся недзе глыбока ў ім, і прымусілі па-новаму паглядзець на той ці іншы бок нашага жыцця, і нарадзілі думкі, якія б, магчыма, і не ўзніклі, не прачытай гэтых радкоў...*

*Якія ж думкі ўзнікалі?.. Самыя розныя, як само жыццё, як людзі, якія жывуць побач. Многія з гэтых думак з часам аформіліся ў нешта адно, цэлае; імі хацелася б падзяліцца з чытачом...*

### ХОЦЬ САЛАВЕЙ МАЛЕНЬКІ, АЛЕ ЯГО ПЕСНІ ЎДАЛЕНЬКІ

...І ніякага яму вялізнага небадымнага баабаба не трэба! Сядзіць сабе на сціплай бярозавай галінцы ці ў кустах алешніку і пяе, як сто, як трыста гадоў таму назад... І не марыць ён пра сад, дзе адно раскашуюць ружы, і не трэба яму рознакаляровых пёркаў папугая... Невялічкая шэрая птушачка, непрыкметная ў галлі, а застаўляе захапляцца і салодка марыць пад гэты дзіўны спеў і трапятаць... Шчаслівыя людзі — паэты!.. Колькі жыве паэзія, столькі нярэдка і параўноўваюць паэта з салоўкам... І, відаць, справядліва, але параўнанне параўнаннем, а жыццё жыццём!

Многа размоў апошнім часам узнікае на сходах, на старонках друку, многа нараканняў, скаргаў, трывог: падаюць тыражы, кніга не карыстаецца попытам, знікла цікавасць да сучаснай паэзіі... І з усяго вынікае адно: «Вас не чытаюць!» — як папрок кожнаму можа сказаць работнік кнігагандлю. «Нас не чытаюць?» — могуць здзівіцца і развесці ўсе разам рукамі паэты... І час — амаль у той жа момант — ужо малюе свой эскіз: вядомы паэт прыходзіць у кнігарню, каб скупіць свае кнігі!.. Што гэта: усумніўся ў мастацкіх вартасцях свайго слова, ці, можа, пачкі кніг спатрэбіліся для аўтографаў надакучлівым аматарам яго паэзіі, ці, можа, на хвіліну стала ніякавата перад чытачом — новая ж кніга на падыходзе, а тут — завалы папярэдніх?!

Думка абганяе думку, а вочы затрымліваюцца на кніжнай паліцы... Тоненькі томік Петраркі, яшчэ танейшы Шэкспіра і яшчэ больш тонкія, да жалю, Багдановіча, Цютчава... А побач — тамы: двухтомнікі, трохтомнікі сучаснікаў... Можа, вось так, гледзячы на паліцы, і пісаліся радкі рамана, звернутыя да чытача:

**Апроч таго, мой дружа шчыры,**
**Я знаю кошт тваіх гадзін —**
**І я не стану іх транжырыць:**
**Паэтаў — шмат, а ты — адзін.**

**Ты й так парой як непрытомны:**
**Няма жыцця — хоць апупей! —**
**Ад мнагатомных, мнагатонных**
**І манатонных эпапей!..**

Творчаму чалавеку нялёгка разабрацца, што ў іх паэзія, што — не паэзія!.. А як жа чытач?! Ці не разгубіўся ён перад гэтым нечаканым валам паэтычнай прадукцыі?! Ці не спужаўся?! А можа, яму проста надакучыла чытаць адны і тыя ж вершы на старонках часопісаў, газет; пасля ў рознага плана тэматычных зборніках, а потым у кніжках, а затым у перавыданнях і пераперавыданнях... І ён махнуў рукою... Ён стаміўся!..Пяцьшэсць разоў чытаць у розных выданнях адзін і той жа верш?! — Даруйце! У чалавека, на жаль, адно жыццё, і не так многа часу адводзіцца ў ім, каб пабыць сам-насам з кнігай!

Гюстаў Флабэр пісаў у 1852 годзе да Луізы Кале: «...Паэзія, аднак, не згіне, але якой яна будзе, паэзія будучых часоў? Не ўяўляю сабе. Адкуль ведаць? Пачуццё прыгажосці, магчыма, стане для чалавека непатрэбным, а Мастацтва — нечым сярэднім паміж алгебрай і музыкай». Можа, час, пра які непакоіўся Флабэр, ужо прыйшоў? Можа, мы нярэдка маем нешта сярэдняе паміж «алгебрай і музыкай»?

**Даруй, чытач, я захапіўся**
**Ідэяй, думкамі, людзьмі**
**І на метафары забыўся —**
**На сэнс пісання, чорт вазьмі!..**

**Як быццам гэткі ўжо я зломак,**
**Што не магу, на модны ўзор,**
**Падзавастрыць танчэй аловак**
**Гуллівай выдумкі лязом.**

**Яшчэ ж і слоў арыгінальных**
**Хоць колькі мушу я**
**ўтварыць, —**
**Цяпер жа вельмі непахвальна**
**Даступнай мовай гаварыць!**

**Каб з тымі докамі зраўняцца**
**І заслужыць іх пахвалу —**
**Хоць раз мне трэба пастарацца**
**Надзець штаны праз галаву!..**
**(«Адступленне другое—**
**іранічнае»).**

А што?! Сёй-той і «надзявае штаны праз галаву», хай сабе гэта тычыцца нейкай справы ці мастацкага слова, калі яно не ад каранёў зямлі сваёй, а ад розуму «круць-верць» — можна так, можна гэтак! — і чытач бачыць гэтую штучнасць, таму што сам неаднойчы трапляе ў палон да Музы і «рыфмуе», да часу, — у блакноціку...

Цытую трывогу Ніла Гілевіча, дадаю сваё, і, можа быць, чытаючы гэтыя радкі, раптам жахнецца, скажам, добры паэт Віктар Гардзей: «Няўжо ў нас сапраўды ўсё так блага?! І ўсё, што ёсць, — гэта вал паэтычнай прадукцыі?!» Мой мілы Віця, вядома ж, не! У маі, зусім нядаўна, разам з Валянцінай Аколавай была на тваёй радзіме — у Ганцавіцкім раёне. Як зараз перад вачамі — дарога, «газік», апошнія будынкі вёскі Раздзялавічы і прыветлівы, шчыры, светлы твар Паўла Карпавіча Шуляка—парторга мясцовай гаспадаркі, над якою, дарэчы, вядзе шэфства часопіс «Маладосць». Колькі ж слоў добрых сказаў Павел Карпавіч у гонар нашай паэзіі!.. Ён і асобныя вершы памятае, і сустрэчу з некаторымі пісьменнікамі ў Доме літаратара!.. І ці адзін Павел Карпавіч ёсць на нашай зямлі? Не адзін!.. Кніжкі і купляюцца, і чытаюцца... У тым жа Ганцавіцкім раёне настаўніцы ў вясковых школах скардзіліся: «Дзе кніжкі дзецям купляць? Няма літаратуры для пазакласнага чытання! Ні ў бібліятэцы, ні ў кнігарні!» Дарэчы, пра бібліятэкі... Яны ж не толькі чытальні! Бібліятэка — яшчэ і сховішча, дзякуючы якому наступныя пакаленні будуць мець уяўленне пра сённяшнюю літаратуру, але гэта чамусьці нікога не цікавіць!.. А што да кнігарань, там зноў сваё: «Няма на паліцах беларускай літаратуры, таму што не разыходзіцца!» Хто не разыходзіцца? Канкрэтна!.. І, можа, варта было б звярнуцца да выдавецкіх планаў — не разышліся папярэднія кніжкі, пачакай з наступнай! А так... адно — словы!

**Паўвека я ўжо назіраю**
**(Пра гэта зло не піша друк!).**
**Як лепшых хлопцаў прыбірае**
**Мяшчанства хцівае да рук!..**

**І не заўважыць, не адчуе,**
**Як з небам повязь абарве—**
**Пад дудку злыдня затанцуе,**
**У дружбе з д'яблам зажыве...**

Не трэба пераказваць турботу паэта, усё — у радках: «дух мяшчанства», «хцівасць мяшчанская» — вось іржа на нашым грамадстве, якая раз'ядае... Гэта ўжо не дача і не машына! Гэта нейкі нечалавечы эгацэнтрызм з жаданнем усё ўзяць сабе!.. Сродкі — няважна!.. Можна «плюнуць» сябру ў твар, можна абхітрыць суседа, можна спрабаваць ашукаць дзяржаву...

**Рабі дабро! Хоць нават коштам**
**Апошніх сіл, апошніх мук.**
**І не пытай: каму? Завошта?**
**Рабі — без просьбаў і прынук!**

**І не турбуйся сам, ці глуха**
**Закончыш ты свой круг зямны,**
**Ці — па значэнню і**
**заслугах —**
**З аб'явай: «Доступ да труны...»**

**Чаму ж, таварыш Ненаежац,**
**Так не па-людску ты жывеш?**
**Што семярым спажыць**
**належыць —**
**Адзін бярэш, грабеш, ірвеш?**

**Усё, чым грудзі ты азвончыў,**
**Што нахапаў ты за жыццё, —**
**Усё абсыпецца аднойчы,**
**Як з дрэва восенню лісцё!...**

Не магу ўтрымацца ад жадання працытаваць словы аднаго мудраца: «Хцівасць — сястра багацця. З другім прыходзіць і першая». Але гэта ўжо тэма, можна сказаць, трошкі іншага плана.

### РОЗУМ ГРАШЫМА НЕ ЗАМЕНІШ...

Што праўда, то праўда!.. Народ—ён заўсёды глядзіць у самую-самую сутнасць, адсюль і векавая народная мудрасць.

Сярод пытанняў, якія часта задаюцца ў час сустрэчы з чытачамі, ёсць, да прыкладу, і такія: «Колькі плоцяць паэту за радок?» або «Ці мог бы паэт пражыць, працуючы толькі над сваімі ўласнымі творамі?». Адказ тут можа быць адзін: літаратура ніколі не была сродкам для існавання. Ніколі! І калі паэт атрымлівае ганарар—гэта не зарплата. Слоўнік дае тлумачэнне: ганарар — грашовае ўзнагароджанне. Толькі ўзнагароджанне... Якое яно? Гэта трэба, каб залежала ад якасці, мастацкай вартасці твора, але вярнуся да «ўзнагароджання»... На жаль, пісьменнікі і самі пра гэта часам забываюць, адсюль і жаданні: што б ні напісалася — усё трэба выдаць! Кожны артыкул, кожную страфу, а звышзадача: яшчэ і перавыдаць! Часам нават экспромт — эпіграму на сябра, тое, што некалі рускі паэт Мікалай Глазкоў ахвяраваў толькі для сцен адной з залаў (дзе звычайна п'ецца кава) Цэнтральнага Дома літаратара ў Маскве!.. А радкі рамана вядуць думкі далей:

**Напрыклад, я — не растлумачу,**
**Чаму так сталася і як,**
**А толькі многімі ў нас, бачу,**
**Кіруе хэнць «пажыць усмак»...**

**— У нас уклад жыцця**
**змяніўся —**
**Нястача канула ў нябыт.**
**Як цяжкі груз на нас зваліўся**
**Раней не знаны дабрабыт.**

**Да грузу гэтага, дарэчы,**
**Не ўсе гатовыя былі,**
**І ў многіх кволенькія плечы**
**Пачварна гнуцца пачалі...**

Ці не пад цяжарам усё тых жа жаданняў (пасада, дабрабыт, узнагарода!)?! А нейкі разумны чалавек сказаў аднойчы: «Калі ты пабачыш маладога чалавека, які хоча падняцца на нябёсы сваіх жаданняў, схапі яго за нагу і сцягні адтуль!»

Памятаю, у час свайго студэнцтва прыязджаю дадому... Сустракаю суседа, пачынаецца размова... Сусед распытвае пра інстытут, і яму трошкі дзіўна, што, аказваецца, і «на пісьменніка» трэба вучыць, але потым раптам пытае: «У нас тут некалі чутка была, што Шолахаў у сваёй станіцы за свае сродкі дзецям школу пабудаваў, то ці

**(Заканчэнне на стар. 6—7).**

КРЫТЫКА
БІБЛІЯГРАФІЯ

# КАЛІ ШУКАЦЬ ФОРМЫ...

ГЭТА невялічкая кніжка, пры ўсіх яе вартасцях, зацікавіла мяне перш за ўсё, прызнаюся, таму, што нарадзілася яна па ініцыятыве і пры дзейсным удзеле Бюро прапаганды мастацкай літаратуры Саюза пісьменнікаў Беларусі. З прапагандай літаратуры ў нас, як вядома, не ўсё добра. Маю на ўвазе перш за ўсё некаторую непажаданую аднастайнасць форм прапаганды — выходзіць звычайна паэт (калі гэта паэт) на публіку і пачынае чытаць свае вершы. Хай сабе яны і неблагія, гэтыя вершы, — даволі часта, аднак, слухачы пакідаюць залу незадаволенымі — гаворкі, як кажуць, на ўсю шырыню жыцця не атрымалася...

Зразумела — што можа быць бліжэй да празаіка ці паэта, як не ўласныя іх творы. І ўсё ж прапаганду сваёй «песні» трэба, думаецца, часцей і ахвотней спалучаць з гаворкай і пра творы іншых, з дасягненнямі ўсёй літаратуры, не забываючы таксама і яе мінулае.

Падставу для такой пастаноўкі пытання якраз і дае гэтая кніга, якую можна і трэба шырока выкарыстоўваць у рабоце з чытачом.

Называецца яна — «Радзіме — радок і жыццё. Памяці беларускіх паэтаў, якія гераічна загінулі на Вялікай Айчыннай вайне». Ужо сама па сабе яна здольна выклікаць увагу чытача, які цікавіцца беларускай паэзіяй, шануе яе мастацкія здабыткі і багатую гісторыю. І кожны прапагандыст творчасці беларускіх паэтаў (беларускай літаратуры ў цэлым) можа ўзяць з яе шмат карыснага, многаму павучыцца.

Галоўная вартасць зборніка — яго ўнутраная цэласнасць, якой падпарадкавана ўся структура кнігі (аналагічныя ж патрабаванні мы прад'яўляем і да пісьменніцкага выступлення!), пачынаючы з тэмы. Тэма ж выбрана вельмі актуальная — подзвіг савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне. Часткай яго, як вядома, стаў і подзвіг савецкай шматнацыянальнай літаратуры. Пра жыццё і творчасць беларускіх паэтаў, што не вярнуліся з палёў вайны, расказвае гэта кніга. Іх імёны і вершы трэба помніць не толькі нам, братам-літаратарам, але і ўсёй грамадскасці, усім людзям. Гэта дарагая і адначасова балючая старонка нашай паэзіі, здольная ўсхваляваць сэрца кожнага. З хвалявання ж і пачынаецца выхаванне...

Паэзія — гэта лёс. Жорсткім ён аказаўся да тых, пра каго расказваецца ў кнізе, хто так і застаўся назаўсёды, гаворачы словамі А. Твардоўскага, «на тым беразе вайны», які ўсё далей і далей адплывае ад нас. Спадчына, якую яны пакінулі, адносна невялікая, але, як справядліва сцвярджаецца ў кнізе, — «няма цаны гэтай спадчыне, бо подпісы пад ёю ў канцы зроблены крывёю сэрца». Вершы іх прадаўжаюць жыць па праву высокай сваёй грамадзянскай і мастацкай вартасці.

І яшчэ адна акалічнасць, якая прымусіла мяне сказаць пра гэту кнігу некалькі слоў — яна добра напісана. Аўтар тэксту і складальнік — Варлен Бечык, які, на вялікі жаль, не дажыў да яе выхаду, не ўбачыў свайго «дзіцяці». А як бы ён узрадаваўся! Вайна прыпала на яго дзяцінства і ў многім, безумоўна, паўплывала на характар, светаўспрыманне, свядомасць, адносіны да людзей. Паэзія была вельмі інтымным, сардэчным прадметам яго літаратурна-крытычнага роздуму, што плённа адбілася і на гэтай кнізе. Ён любіў паэзію, любіў паэтаў, якія, трэба сказаць, больш, чым хто, маюць душэўную патрэбу ў нашай любові. В. Бечык — сам паэт у душы — добра гэта адчуваў. Ён быў літаратарам з высокім мастацкім густам, што плённа адбілася пры складанні і гэтага зборніка.

Сапраўды, вершы паэтаў, якія прадстаўлены ў ім, гавораць самі за сябе. Вось, напрыклад, радкі дваццацігадовага Міколы Сямашкі:

**Ты выйдзі ў сад. У гэты цёплы вечар**
**Так добра ў ім — расцвіўшым, маладым.**
**І неба сіняе з любоўю чалавечай**
**Працёрла рукі зорныя над ім.**

Пры ўсёй сваёй «апавядальнай» звычайнасці гэта вельмі змястоўныя, па-сапраўднаму паэтычныя радкі, за якімі стаіць і характар, і школа (паэтычная школа), і праўда чалавечага пачуцця. Яшчэ больш уражанне пакідаюць вершы М. Сурначова, А. Коршака, Л. Гаўрылава, А. Ушакова, З. Астапенкі і інш.

Чым здзіўляюць гэтыя людзі?

Найперш, мне здаецца, незвычайнай духоўнай цэласнасцю характараў, адзінствам слова і справы, маральных і эстэтычных перакананняў, адданасцю савецкай Радзіме.

(Па асацыяцыі ўспамінаецца сённяшняе пакаленне, так званае «сярэдняе», абпаленае вайной — момант пэўнай тыпалагічнай супольнасці тут, відаць, можна знайсці).

Гэта было пакаленне, адзначае В. Бечык, светапогляд якога, увесь маральны кодэкс сфарміравала савецкая, пасляктрычніцкая рэчаіснасць. Крытык даволі падрабязна, з непадробным замілаваннем расказвае пра жыццё і творчую дзейнасць сваіх герояў, даючы прыклад выключна сумленных адносін да справы: у бібліяграфічных дадзеных паведамляюцца, напэўна, самыя поўныя (а часам і новыя) звесткі. Змітрок Астапенка — аўтар славутай паэмы «Эдэм» (1944) — у 1932 годзе, аказваецца, напісаў раман «Вызваленне сіл».

Варта ўхваліць і тое, што ў кнізе прыводзяцца выказванні і вытрымкі з артыкулаў сяброў і знаёмых загінуўшых паэтаў, тых, хто пра іх пісаў (С. Александровіч, Р. Бярозкін, А. Зарыцкі, К. Кірэенка, А. Вялюгін, П. Пруднікаў, Я. Казека, У. Калеснік, С. Грахоўскі, Р. Няхай і інш.). Гэта дазваляе глыбей зазірнуць у іх унутраны свет, зразумець іх маральны максімалізм, гранічную патрабавальнасць — да сябе і да іншых.

Вось як, напрыклад, успамінае пра Міколу Сурначова К. Кірэенка: «Няўрымслівы шукальнік, чулы і таварыскі, але заўсёды бескампрамісны да фальшу слова, няпэўнасці погляду, браку пачуцця... Такім Мікола запомніўся мне і ўсім сябрам у гады вучобы ў Гомельскім педінстытуце, такім ён быў у час нядоўгай сваёй працы ў газетах «Звязда» і «Чырвоная змена» і такім жа ён паказаў сябе ў страі змагароў за Айчыну».

І ў мастакоўскім плане гэтыя выказванні таксама пра многае гавораць — пра стылявыя асаблівасці іх паэзіі, суадносіны ў ёй традыцый і наватарства, асабовага і сацыяльнага.

Р. Няхай вельмі дакладна пісаў пра Аляксея Коршака: «Усім нам падабалася глыбокая лірычнасць вершаў Коршака. Адчувалася, што паэт плённа вучыцца ў класікаў беларускай літаратуры і асабліва ў Максіма Багдановіча...»

«С. Крывец, — падкрэслівае У. Калеснік, — у сваёй паэзіі захоўвае сувязі з паэтычнай традыцыяй беларускага рамантызму і народнай песняй».

Сучасныя беларускія паэты прысвяцілі сваім папярэднікам нямала твораў. І, можа, асабліва пранікнёна — пра Міколу Сурначова — напісаў А. Пысін:

**Ён юным стаў у строй паэтаў,**
**Ён па трывозе зброю ўзяў.**
**Прадбачыў лёс і лёс свой ведаў,**
**Калі пра віцязя пісаў.**

Сапраўды, паэзія здольна прадказваць лёс. Пра гэта нам яшчэ раз напомніла кніга.

Словам, на маю думку, пачынанне Бюро прапаганды мастацкай літаратуры пры СП БССР трэба ўхваліць — падобныя кнігі ў дапамогу выступаючым (і не толькі ім) варта выдаваць і надалей.

**Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ.**

*Радзіме—радок і жыццё. Памяці беларускіх паэтаў, якія гераічна загінулі на Вялікай Айчыннай вайне. Мінск, «Полымя», 1986.*

**Д**А НЯДАЎНЯГА часу на беларускай мове існаваў пераклад толькі аднаго твора вядомага французскага пісьменніка Антуана дэ Сент-Экзюперы: гэта аповесць «Маленькі прынц», што ў перакладзе Э. Агняцвет пабачыла свет у канцы 60-х гадоў. Таму, безумоўна, сам факт з'яўлення аб'ёмнай кніжкі выдатнага пісьменніка па-беларуску ў перакладзе Н. Мацяш успрымаецца як радасная, прыемная, хоць, на жаль, і запозненая падзея ў літаратурным жыцці нашай рэспублікі.

Адкрываецца кніга арыгінальнай прадмовай Н. Мацяш, дзе мы не сустрэнем традыцыйных і амаль фатальных: «нарадзіўся... вучыўся... працаваў... надрукаваў... памёр», а пазнаёмімся са спробай перакладчыцы разабрацца ў філасофскай канцэпцыі жыцця і мастацкай творчасці Сент-Экзюперы, убачыць яго ролю і месца ў гісторыі французскай літаратуры.

Затым змешчаны чатыры шырока вядомыя творы пісьменніка—«Начны палёт», «Планета людзей», «Ваенны лётчык» і лірычны нарыс «Ліст да заложніка». Хочацца спадзявацца, што Н. Мацяш прадоўжыць работу над перакладамі мастацкай спадчыны выдатнага французскага пісьменніка, і тады мы зможам пазнаёміцца з яго раманамі «Паўднёвы паштовы», «Цытадэль», з яго рэпартажамі, нарысамі, трапяткімі, усхваляванымі пісьмамі да маці, блізкіх і сяброў. Разумею, справа гэтая не простая, але вельмі патрэбная і ўдзячная, бо новыя пераклады з Сент-Экзюперы падвялі б нас да больш поўнага і глыбокага разумення ягонай творчасці.

Як аб'ект перакладу творы Сент-Экзюперы хаваюць у сабе нямала цяжкасцей, хоць прозу гэтага пісьменніка часам любяць называць «чыстай», «празрыстай», «лёгкай». І «Начны палёт», і «Планета людзей», і «Ваенны лётчык» — творы вельмі не простыя па структуры і кампазіцыі. Нетаропкая спавядальная манера пісьма нярэдка саступае месца рэзкім, імклівым, фрагментарным накідам. Паступовасць развіцця асноўнай сюжэтнай лініі часта перапыняецца разгорнутымі ўнутранымі маналогамі персанажаў, шматлікімі рэмінісцэнцыямі, аб'ёмнымі аўтарскімі рэмаркамі. Колькасць дзейных асоб у Сент-Экзюперы параўнальна невялікая, але кожная з іх выпісана дастаткова рэльефна і каларытна. Гэта ярка выяўленыя індывідуальнасці са сваімі

*А. Сент-Экзюперы. Планета людзей. Выбранае. Пераклад з французскай Н. Мацяш. Мінск. «Мастацкая літаратура». 1985.*

ЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ

## ПРАВА САПРАЎДНАЙ ДЭМАКРАТЫІ

**Выдавецтва «Беларусь» працягвае выпуск серыі брашур «Савецкая Беларусь», што выходзяць на рускай і ў перакладзе на замежныя мовы і расказваюць аб паўсядзённым жыцці працоўных рэспублікі, дасягненнях у розных галінах вытворчасці, навукі, культуры, ахове здароўя, а таксама сацыяльнай структуры савецкага грамадства. Нядаўна з друку выйшла чарговая брашура «Грамадства сапраўднай дэмакратыі», напісаная журналістам У. Шарпілам.**

**Аб тым, як савецкія людзі прымаюць удзел у кіраванні дзяржавай, расказваецца на прыкладзе лёсаў лепшых прадстаўнікоў калгаснага сялянства, рабочага класа рэспублікі, народнай інтэлігенцыі. Сярод іх гальванік Мінскага вытворчага аб'яднання «Інтэграл», намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР Т. Бязручка, стругальшчык Мінскага завода аўтаматычных ліній Л. Патаповіч, які поруч з вядомымі ўсяму свету вучонымі за прапаганду перадавых метадаў працы першым сярод рабочых краіны ўдастоены медаля імя акадэміка С. І. Вавілава, токар Беларускага аўтамабільнага завода Н. Хаткоўская і іншыя.**

**Выданне багата ілюстравана каляровымі здымкамі.**

**К. ЗАХАРЭНЯ.**

# ТРЫ МУДРЫЯ ПРЫМАЎКІ

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5).**

праўда такое?» Чаму гэта ўспомнілася? Не на школу хачу зараз звярнуць увагу, а на словы **«ў сваёй станіцы»**. Гэта ўжо адносіны да роднага кутка!.. Можа, у наш час і не варта школу за свае сродкі будаваць, школ дастаткова будуе дзяржава, а вось уласную бібліятэку можна было б падарыць якой-небудзь аддаленай ад вялікіх і малых цэнтраў школцы, перш чым пачынаць думаць пра званні... Урэшце, і пра школу... У рамане ёсць «Адступленне шостае — педагагічнае» — вось што трэба прачытаць кожнаму настаўніку, і, можа, не толькі прачытаць, а і вывесіць у школьным калідоры!

**Хлеб... Чорны, белы, шэры, сітны.**
**З чарэні хлеб і фармавы.**
**Хлеб — мой і твой, яго і ўсіхны.**
**Ні для каго — не дармавы...**

**За Перамогу ваявала**
**І тая скібка, што ў сірот**
**Ад рота маці адрывала,**
**Каб не аслаб без хлеба фронт.**
**Было — такое — на планеце!**
**І не віна тут мацярок,**
**Што сёння іх нашчадкаў дзеці**
**Не ўсюды помняць гэты ўрок...**

Так... пра хлеб, пра зямлю, пра людзей на ёй, пра сённяшняе і будучае... Каго вінаваціць, што шасцікласнік на пытанне пісьменніка: «Можа, будуць якія пажаданні?» выказваецца: «Пішыце на рускай мове», а ў дыктоўцы робіць дзесяткі памылак і не ведае, што прозвішчы Янка Купала і Якуб Колас — гэта псеўданімы пісьменнікаў? А яму ж, сённяшняму шасцікласніку, тварыць будучае: ён, магчыма, будзе жыць у яшчэ больш складаным часе, хто знае, што чакае нас заўтра?! Разумнае сённяшняе — пры любові, пры дабрыні, пры павазе, адданасці і веры, — гэта разумнае заўтра! Мы гаворым пра паскарэнне, гаворым, што ва ўсе сферы нашага быцця павінна ўвайсці вылічальная машына, а школьнікі на ўроках працы, як і ў саракавыя, як і ў шасцідзесятыя, робяць усё тую ж табурэтку!.. Змена псіхалогіі, — пра гэта перш за ўсё трэба думаць пісьменніку. Ды ў кожным з нас адно нязменна:

**Такой трывожнаю часінай,**
**Назло шалёнаму звяр'ю —**
**Для справы міру трэба ўсім нам**
**Яшчэ мацней любіць зямлю!**

**Любіць зямлю! І не наогул,**
**А — гэту! Нашу! Дзе жывём!**
**Во з гэтым полем, з гэтым логам,**
**З касьбою гэтай і жнівом...**

## УСЯКАЯ САСНА У СВАІМ БАРЫ ГУДЗЕ

Пра чалавека і зямлю гаворыцца ў гэтай прымаўцы. А як нараджаецца літаратурны твор? З чаго? Адказ побач — з жыцця! Ёсць героі рамана, значыцца, ёсць і прататыпы. Яны недзе жывуць, працуюць, радуюцца і смуткуюць, гадуюць дзяцей, унукаў, заняты звычайным чалавечым клопатам... Многае з іх жыцця прачыталася ў рамане, яны ўжо як блізкія... І радасць іх блізкая, і бяда — таксама.

**Яшчэ ў двары іх—пуста й гола.**
**Зямлянка ў плеснях. Рызманы.**
**І — голад, голад, люты голад —**
**Як самы страшны след вайны.**

**Той год ва ўдовае Анэлі,**
**Суседкі іхняй, дзве дачкі —**
**Блізняткі — *спухлі, пасінелі***
**І згаслі ўраз, як светлячкі.**

Не трэба больш ніякіх слоў. Дастаткова чатырох радкоў, каб гэтыя блізняткі ўжо заставаліся ў душы. І колькі такіх радкоў!.. Радкоў пра маці, самага дарагога чалавека і, можа, у «Адступленні чацвёртым — у гонар маці» — ідэя ўсяго рамана, яго асноўная думка, бо ў анатацыі да кнігі ёсць словы: **«Дзеці бацькоў, дзеці Радзімы, дзеці Зямлі** — вось тры ідэйна-тэматычныя колы, у сферы якіх — героі, праблемы».

# СПАСЦІЖЭННЕ

жыццёвымі прынцыпамі, са сваімі адносінамі да свету, сяброў, ворагаў, са сваімі манерамі, звычкамі, мовай. Аўтар віртуозна валодае шматлікімі рэгістрамі—пераходзіць ад будзённых, звычайных бытавых сцэн да драматычных ці лірычна-паэтычных апісанняў і рэтраспекцый. У кнізе багата спецыяльнай тэрміналогіі — авіяцыйнай, ваеннай, агульнатэхнічнай. Моўная тканіна твораў Сент-Экзюперы характарызуецца шырокім дыяпазонам лексічных, фразеалагічных і стылявых сродкаў: ад высокіх, узнёсла-рамантычных сентэнцый да стылёва нейтральных выразаў, прастамоўя, арго і жарганізмаў. Пісьменнік любіць аздабляць сваю мову яркімі нечаканымі эпітэтамі, хлёсткімі метафарамі, запамінальнымі гіпербаламі і літотамі. Рытм прозы Сент-Экзюперы выключна разнастайны: свядома замаруджаная, амаль статычная падача мастацкага матэрыялу лёгка ўжываецца з дынамічнымі, а то і імпульсіўнымі ўстаўкамі.

Усё гэта патрабавала ад перакладчыцы не толькі дасканалага валодання французскай і беларускай мовамі, не толькі творчага натхнення, высокага прафесійнага майстэрства, але і вялікай, нябачнай для чытача папярэдняй аналітычнай работы над арыгіналам. Без гэтай складанай карпатлівай працы кожная спроба перакласці Сент-Экзюперы была б несур'ёзнай і ў лепшым выпадку перакладчыца данесла б да нас толькі далёкі глухі адгалосак жывога ўсхваляванага слова вялікага французскага пісьменніка-гуманіста.

Нельга катэгарычна і адназначна сцвярджаць, што пераклад твораў Сент-Экзюперы, зроблены Н. Мацяш, бездакорны ва ўсіх адносінах. (Такіх ідэальных перакладаў проста не бывае). Але хочацца падкрэсліць, што ў лепшых узорах сваёй перакладчыцкай творчасці Н. Мацяш дэманструе глыбокае, тонкае разуменне нюансаў арыгінала, зайздроснае ўменне перадаць іх у іншамоўным абліччы, дайсці да такіх дэталей аўтарскай задумы, якія адкрываюцца толькі сапраўды вопытнаму майстру. Пераклад Н. Мацяш не проста інфармуе і перадае пэўныя звесткі, а радуе, засмучае, хвалюе нас, будзіць нашы пачуцці, узбагачае наша духоўнае жыццё.

Вось толькі некалькі прыкладаў таленавітага перакладчыцкага пераўвасаблення: «Здаецца, што дасканаласць дасягаецца не тады, калі няма ўжо чаго дадаць, а тады, калі няма чаго адкінуць» (стар. 114). Чым не крылаты выраз?! Або: «У хлеба столькі прызначэнняў! Хлеб стаў для нас сродкам з'яднання людзей, бо людзі дзеляць яго за агульным сталом. Хлеб стаў для нас сімвалам велічнасці працы, бо потам здабываецца ён. Хлеб стаў для нас вечным спадарожнікам, бо яго раздаюць у часіну бедстваў. Смак раздзеленага хлеба ні з чым не параўнаць» (стар. 345). Ці яшчэ: «Паражэнне... Перамога... Я кепска разбіраюся ў гэтых формулах. Ёсць перамогі, якія натхняюць, ёсць і такія, што прыніжаюць. Адны паражэнні нясуць пагібель, другія—абуджаюць да жыцця. Жыццё выяўляецца не ў стане, а ў дзеянні. Адзіная перамога, у якой я не магу сумнявацца, гэта перамога, якая затоена ў моцы зернейка. Зернейка, кінутае ў чарназём, ужо перамагло. Але патрэбен час, каб ягоная перамога закрасавала пшаніцай» (стар. 347—348). Гэта суладна гучыць з арыгіналам і хораша ўспрымаецца па-беларуску.

Ахвотна выкарыстоўвае ў сваім перакладзе Н. Мацяш інверсію—прыём, які так характэрны для французскага сінтаксісу: «Але ён жа хоча гаварыць сур'ёзна, мой маленькі брат» (стар. 327); «Ён быў задаволены, гэты стралок» (стар. 331). Гэта не робіць вялікай бяды беларускаму парадку слоў, затое можа ўспрымацца як пажаданы ў дадзеных выпадках галіцызм.

У цэлым добра справілася перакладчыца з перадачай тэхнічнай тэрміналогіі: «кабрыраваць самалёт», «увайсці ў штопар», «ісці на поўным рэжыме» і г. д. Праўда, сёе-тое тут выклікае нязгоду. Напрыклад, «выціскаць счапленне»—ці не калька гэта з рускага «выжимать сцепление»? Магчыма, варта было пашукаць штонебудзь больш удалае.

Стылявой неадпаведнасцю арыгіналу пазначаны наступныя выразы і словы: «пасадзіць самалёт проста на пуза», «збіць пыху», «прагудзець вушы», «пакімарыць», «падрупаць», «пруцца» (пра самалёты).

Ёсць у тэксце перакладу не зусім пажаданыя таўталагізмы: «паасобная асоба», «нібы ветразь трапятаў на ветры».

Знайшліся ў перакладзе і памылкі вось такога парадку: «Барк апрануў іх (дзяцей) у залатыя пантофлікі» (стар. 161). Пантофлікі ўсё-такі звычайна абуваюць.

Здалося мне, што мнагавата ў беларускім тэксце русізмаў: «башмак», «прызвана выконваць», «клады старажытных манет», «абрушыўся страшны праклён», «духоўная вотчына», «мясарубка», «тры дні падрад», «на гражданцы», «дабравольная самаахвярнасць» і г. д. Наўрад ці трэба лічыць вялікай крамолай тое, што перакладчыца ў некаторых выпадках звяртаецца да рускіх перакладаў твораў Сент-Экзюперы. Аднак вельмі важна і ў такіх абставінах памятаць пра арыгінал, інакш рускі тэкст можа стаць своеасаблівым магнітам і зацягне перакладчыка ў сваё рэчышча, у сваю трактоўку іншамоўнага першатвора. І тады з'яўляюцца вось такія рэчы: адзін з урыўкаў «Планеты людзей» Н. Галь пераклала на рускую мову такім чынам: «Отдают ему свое сердце — дикий сад, а ему по вкусу только подстриженные газоны». Н. Мацяш ідзе за рускім тэкстам і піша: «І аддаюць яму сваё сэрца—дзікі сад, а яму даспадобы толькі падстрыжаныя газоны». У арыгінале пра гэта сказана прасцей і ясней: «І аддаюць яму сваё сэрца—дзікі сад, а яму (абранніку—гэта выцякае з больш шырокага кантэксту) даспадобы толькі дагледжаны парк». Сент-Экзюперы супрацьпастаўляе «дзікі сад» «дагледжанаму парку» (Parc soigné), а не падстрыжаным газонам, якія могуць быць толькі часткай, атрыбутам дагледжанага парку. Дробная, можа, і не зусім істотная недакладнасць, але навошта яе дубліраваць?..

У творах Сент-Экзюперы шмат экзатычных тапонімаў. Мусіць, варта было даць хоць да некаторых з іх адпаведныя тлумачэнні.

Ёсць у «Планеце людзей» эпізод, дзе героі рамана ставяць адзін аднаму адзнакі: «Адзінаццаць», «Дзевятнаццаць», якія мала пра што гавораць чытачу, не знаёмаму з сістэмай балаў у навучальных установах Францыі, дзе дзейнічае дваццацібальная сістэма. Можа, і пра гэта трэба было б сказаць у зносцы?..

Што ж, паўтаруся: у прыродзе не існуе ідэальных перакладаў. Кожны пераклад мастацкага іншамоўнага твора—гэта толькі больш ці менш удалы крок да спасціжэння арыгінала, і вельмі прыемна, што крок гэты Н. Мацяш зрабіла з веданнем справы, бадзёра і ўпэўнена. Яе новая праца—важкі ўклад у скарбонку нашай перакладной літаратуры, у актыў беларуска-французскіх літаратурных узаемасувязей.

**Леанід КАЗЫРА.**

---

**І колькі доўжыцца тут вёснам,**
**Кругавароту зім і лет —**
**Прыгожы, казачна-дзівосны**
**Дарыць ты будзеш дзецям свет.**

**Пры ўмове, матухна, што сёння**
**Зямлі ўсёй дочкі і сыны**
**Развеяць змогуць назаўсёды**
**Цень тэрмаядзернай вайны.**

**Што ў цэлым свеце, на планеце,**
**Ва ўсіх краях, ва ўсіх кутках —**
**З'яднае ўсе людскія сэрцы**
**Твой вобраз з дзіцем на руках!..**

Раман напісаны жывой, вельмі прывабнай мовай. У ім чытач знойдзе і жарт, і сум, і знаёмы характар... Варта толькі ўспомніць свае родныя мясціны, сваіх суседзяў, дзе што ні чалавек, то свая гісторыя за ім, якая раскрывае не толькі звычкі... «Сідара не знаеш? — гаварыла мне аднойчы адна бабуля. — А ён жа ішоў бродам і кепкай шчупака злавіў!» Толькі дэталь, а намаляваны вобраз. Так і ў рамане. Варта прачытаць страфу: «— Што ж, еслі просіць прадсядацель, ці, ізвіняюсь, тамада, каб я сказаў што к гэтай даце, то я далжон адвеціць: да!» — і ўжо бачыш чалавека, ён як выпісаны.

Многа радкоў у рамане народжана жаданнем, каб людзі не шкадавалі, а як можна больш дарылі любві сваёй і блізкім людзям, і далёкім, і прыродзе, каб жылі сённяшнім, а помнілі і пра ўчарашняе, каб бліжэй быў чалавек да чалавека... Узяць горад, дзе самым неабходным для нас з'яўляецца, як ні дзіўна, тэлефон!.. Людзі лісты пісаць развучыліся, і дарэмна! Бо колькі ўнутранай, душэўнай прыгажосці гіне ў нас саміх, аб якой часам і не здагадваюцца людзі, колькі нявыказаных слоў памірае разам з чалавекам!.. Мы тыднямі не бачым сяброў сваіх, але час ад часу набіраем нумар тэлефона: «Прывітанне! Што нова-га?.. Нічога?.. У мяне таксама!.. На сходзе будзеш?.. Ну то там пабачымся!.. Пакуль!.. Пасядзелі на сходзе, пабачыліся: «Нешта ж пазнавата заседзеліся?! Заўтра дома будзеш?.. Ну то я, можа, пазваню!.. Пакуль!»... Дзе нашы шчырыя размовы, дзе нашы вечары на якім-небудзь высокім ці нізкім рачным беразе з успамінамі, з марамі ці са спрэчкамі?! Можна і паспрачацца, выказаць сваю думку, гэта ж не падстава для таго, каб сапсаваць адносіны, а гэта, на жаль, ёсць!..

«Родныя дзеці» назваў Ніл Гілевіч свой раман, родныя людзі — героі рамана. З іх лёсамі цікава будзе пазнаёміцца вяскоўцу і гараджаніну, меліяратару і сацыёлагу, настаўніку і творчаму чалавеку... Як сказала адна добрая душа: «Чужога жыцця не пражывеш, ды многаму можаш навучыцца».

---

**ПОЗІРК У МІНУЛАЕ**

# «МНЕ СНІЎСЯ СОН...»

*Да 170-годдзя верша Байрана «Цемра»*

Вось і яшчэ адзін з фактаў, якія гавораць аб тым, як памяняўся на нашых вачах час, як змянілася за апошнія гады наша светаадчуванне, наш пункт гледжання на многія рэчы. У студэнцкія гады мы, здаючы залікі і экзамены па замежнай літаратуры, прапусцілі безуважна верш Байрана «Цемра». Ён не ўваходзіў у лік праграмных, пра яго не гаварыў нам нічога лектар, не звярнулі мы на яго ўвагі і самі. А калі хто і звярнуў, то толькі краем вока, мімаходзь. І ва ўсякім выпадку — не задумаўся над ім, не знайшоў у ім нічога агульнага са сваім часам.

І вось...

**Мне сніўся сон...**
**Не ўсё ў ім сном было.**
**Пагасла сонца светлае, і зоркі**
**Блукалі без патрэбы,**
**без праменняў**
**У вечным космасе;**
**ільдзістая зямля**
**Лятала слепа у бязмесячным**
**паветры.**
**Час ранку надыходзіў**
**і праходзіў,**
**Ды не прыводзіў дня ён за**
**сабой...**

Далей у вершы ідуць іншыя, надзвычай выразна выпісаныя — хаця гутарка ідзе як быццам пра сон — падрабязнасці глабальнай катастрофы, «канца свету»... Гараць гарады і лясы. Носяцца з крыкам нізка над зямлёй птушкі, «махаючы непатрэбнымі крыламі». Збягаюцца да людзей спалоханымі статкамі звяры, спаўзаюцца, уюцца між людзей змеі...

**...Быў свет пусты;**
**Той мнагалюдны свет, магутны**
**свет**
**Быў мёртвай масай, без травы,**
**без дрэваў,**
**Без часу і жыцця,**
**людзей і руху...**
**То хаос смерці быў...**

А што людзі? Дзе яны? Як яны ўявіліся паэту ў яго фантасмагарычным сне? Натуральна, што «хаос смерці» не абмінуў іх. У вершы даецца жудасная карціна дэградацыі і гібелі людскога роду.

**...Хто ляжаў,**
**Вочы заплюшчыўшы,**
**ды плакаў;**
**Хто сядзеў, падпершыся рукамі,**
**і ўсміхаўся;**
**Другія клапатліва мітусіліся**
**Наўкол кастроў — і ў жудасці**
**шалёнай**
**На неба цёмнае з трывогаю**
**глядзелі,**
**На саван, што пакрыў усю**
**зямлю...**

Чытач, адчуваю, можа тут перабіць мяне і сказаць, што гэтыя радкі выклікаюць у яго пэўныя асацыяцыі, нешта яму нагадваюць. І падумаўшы, можа дадаць, што байранаўская «Цемра» вельмі нагадвае яму сённяшнія апісанні «ядзернай зімы», у прыватнасці тыя, што даюцца ў кнізе «Ноч пасля...», выдадзенай нядаўна пад рэдакцыяй акадэміка Я. П. Веліхава Камітэтам савецкіх вучоных у абарону міру.

Што ж, чытач мае, безумоўна, рацыю, твор Байрана дае несумненную падставу для такога прачытання, такога ўспрымання — у кантэксце суровых рэальнасцей нашага атамнага, тэрмаядзернага веку.

Паўстае пытанне, як узнікла «Цемра»? Чым была навеяна гэтая паэтычная фантасмагорыя, напісаная, як вядома, пад увогуле мірным бязвоблачным швейцарскім небам, на ўтульнай зялёнай віле, у ясны ліпеньскі дзень 1816 года (г. зн. роўна 170 гадоў назад, своеасаблівы юбілей твора)? Існуюць розныя версіі. У творы ёсць слова «вайна» («Зноў успыхнула вайна, пагасла што на час...»), і біёграфы паэта, літаратуразнаўцы выказвалі меркаванне, што задума верша ўзнікла ў выніку наведвання паэтам поля бітвы пад Ватэрлоо ў маі 1816 года, праз некалькі месяцаў пасля бітвы. Выказваюцца, у прыватнасці ў сучаснай літаратуры, і іншыя меркаванні. Так, напрыклад, С. П. Капіца выказвае здагадку (гл. «Иностранную литературу», № 1 за 1986 г.), што ў вершы «Цемра» знайшлі адлюстраванне катастрафічныя змены ў клімаце, якія былі выкліканы вывяржэннем вулкана Тамбора ў 1815 годзе (рэзкае пахаладанне, неўраджай, пажары, халера). Верш «Цемра», робіць вывад вучоны, «на мой погляд, лепшае ў сусветнай літаратуры апісанне «ядзернай зімы».

Так па волі часу, па волі неспазнанай логікі рэчаў байранаўскі эпітэт «цемра» стаў у адзін рад з такімі набыўшымі сёння асабліва злавесны сэнс паняццямі, як «анімацыя», «аверкіль», «халакаст», «амніцыд», «тэрмаядзерная катастрофа», так твор з верша-сну, верша-фантазіі ператварыўся ў верш-папярэджанне, верш-перасцярогу. Барацьбіты за мір, супраць пагрозы новай вайны бяруць яго на ўзбраенне.

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ.**

---

**ЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ**

# НА ІДЭАЛАГІЧНЫМ УЗБРАЕННІ...

# ФАЛЬКЛОР

Так званая «масавая культура» ў капіталістычных краінах сваёй задачай бачыць дэвальвацыю эстэтычных густаў народа, выхаванне яго ў пакорлівасці, адарванасці ад палітычнага жыцця. Яна ўсё смялей і актыўней бярэ на сваё ўзбраенне і фальклор. На Захадзе ствараюцца фільмы, тэлевізійныя спектаклі, перадачы, у якіх дзейнічаюць многія героі казак, паданняў, легендаў. Але тут яны, з лёгкай рукі дзялкоў ад мастацтва, ператвараюцца ў пачвар, вампіраў, якія, уздзейнічаючы на псіхіку чалавека, ствараюць у яго няўпэўненасці і страх перад будучыняй. Разам з тым перадавыя дзеячы замежнага мастацтва бачаць у фальклоры невычэрпную крыніцу духоўнага ўзбагачэння.

Пра гэта ідзе гаворка ў брашуры «Фальклор і «масавая культура» А. Фядосіка, выпушчанай выдавецтвам «Навука і тэхніка». Праблемы суадносін фальклору і «масавай культуры» да нядаўняга часу закраналіся толькі мімаходзь, а зараз гэтаму пытанню прысвечана асобная праца.

Робячы экскурс у мінулае (раздзелы «Карані процілегласці і сферы ўплыву», «Фальклор і кіч»), А. Фядосік паказвае, як ужо ў канцы васемнаццатага стагоддзя пачалі закладвацца падмуркі «масавай культуры», калі «гуманістычная накіраванасць фальклорных твораў адкідваецца, паводзіны персанажаў падганяюцца пад характэрныя для буржуазнага свету эталоны, далёкія ад народных ідэалаў, але выгадныя пануючым класам». У наступных раздзелах («Фантастыка народных казак і твораў «масавай культуры» і «Палярнасць ідэалаў») раскрываецца рэзкая процілегласць паміж творамі-падробкамі пад фальклор і мастацтва, якое творча наследуе і выкарыстоўвае лепшыя ўзоры вуснапаэтычнай творчасці.

**М. ФЕДАРАЎ.**

Рыгор БАРАДУЛІН



## З новай кнігі

### Чаканне зімы

Вользе ПАНКОВАЙ

I

На ўвесь амерыканскі мацярык
Духмяна ў чаі
Пахне мацярынка —
Спаліла цішы лугавой іскрынка
Спакойным полымем
І гвалт, і крык.

Шэсцьдзесят сёмая
Не ўспомніць стрыт
Тых дзён,
Калі сюды спакой завітваў.
Было сямейных,
Сацыяльных бітваў.
Маўчыць гібрыд.
Дзе славянін, дзе брыт?

Руды амерыканскі мацярык
Гаючым пахам
Хмеліць мацярынка —
З прывечанага выраю
Пярынка
Прынесла з-пад аблок
Зубрыны рык.

І разам з намі
П'юць з ракі зубры,
І нам
Нібыта ў роднай хаце душна.
Травіца-шаўкавіца,
Маці-душка
Вядзе наш сум
У шчырыя бары.

Худы амерыканскі мацярык
Хістае звабным хмелем
Мацярынка —
З сузор'я празарлівых траў
Зарынка
Прапальвае далоні сноў старык.

Травы заакіянскай
Дужы пах
Перабівае пах чаёў Кітая.
Залётны вецер
З намі чай каўтае,
*Пах мацярынкі ў ветра на губах.*

II

А надвор'е на зіму шляхетнае.
Зрэзаную з фермерскай ляхі
Мы капусту крышым на Манхэтане,
Будзячы нажамі стол глухі.

Храскаючы хрумсткай качарэжкаю,
Мы гаворым,
Як зіма ідзе
Недзе ў нас
З калядамі, з Цярэжкаю
Па таўстой слюдзе —
Былой вадзе.

Солім белай соллю ў цесным слоіку,
Топчам лыжкаю,
Каб сок дала,
І, шануючы старую логіку,
Крышаніну тоім ад святла.

Дома ў Чорнай Вірні
Ці ля Дрэтуні
Соладка ад дыму ялаўца.
Аж здалося нам,
Што на Манхэтане
Забялеўся
Пудкі след зайца...

### Пытанне

Скаланаюць бетон
звышмагутныя тракі —
З іх любы
шар зямны мог бы павалачы.
А мяне падганяюць
нецярпення сабакі,
Днём з агнём
і са свечкаю цемры ўначы
«Студэбекер» шукаю,
«студар» той, што ва Ушачах
Нашу вуліцу ўзяць
мог бы ў кузаў за раз.
Наш айчынны
папыхкваў на чурках гарачых
Грузавік-гразявік —
і не раз — груз і гразь.
Сотні тонаў
ускуляць «БелАЗы» на плечы,
А здаецца, што «студар»
за іх быў дужэй.
І шукаю,
шкадуючы па-чалавечы,
Што ён рэбрамі лёг
ля зарослых траншэй.

У піцэрыях — піца,
і ўсё ў магазінах,
Маеш грошы, заходзь,
нібы ў рай, — выбірай.
І хаджу, і гляджу
ў маладых успамінах,
І галодны вяртаюся
ў звучаны край.
Там такая тушонка
прыязджала ў пасылках,
Там такія галеты
прасіліся ў рот,
Сшыткі там чырванелі
ў граматычных памылках,
Поўным гаспадаром
быў няшчодры гарод.
Я смакую прысмакі
адменных гатункаў,
А тушонкі няма,
што смачнейшай была.
Мне міргаў семафор,
на мяне сноб гатукаў,
Я тушонку не змог
запрасіць да стала.
Дзе яна?
Дзе касцюмчык у клетку —
з хімчысткі,
Як цяпер разумею, —
навюткі тады?
Я гартаю даведнік
шматлісты і хісткі,
Ад далёкіх гадоў
пазнікалі сляды.

Падкажыце, прашу вас,
шаноўныя Штаты,
Дзе знайсці, бо, дальбог,
збіўся з ног я зусім,
«Студэбекер», тушонку,
касцюмчык клятчаты?
Маю чым заплаціць вам
за вашы затраты.
Гэта трэба не мне —
успамінам маім!

### Заява

Жаданне пачынае разгарацца
На схіле дзён
Падацца ў эмігрыцыю
І атрымаць хутчэй
На выезд візу
У мудрую дзяржаву,
Дзе спакон
Самотным самадзержцам
Быў спакой,
Дзе ціша мела верх
З вярхоў да нізу,
І ўрэшце ўзяць дазвол
Прыняць падданства
Не зніклага за даўнасцю
Паганства.

Усіх прымае
Шчодрая дзяржава,
Дзе ўскаласіцца
Зерне мае права
Свае сцягі
У восені з вясною.
У ёй жыве,
Не ведаючы меж,
Зямное,
Баравое,
Азярное
Насельніцтва
І сам,
Пакуль жывеш,
Падданцам стаць
Чакаеш светлай згоды
Дзяржавы самаўзроджанай —
Прыроды.

### Маленне

Не з канцылярый сакратаркаю —
Ішла ў вясковыя бабулі,
Была ты жнейкай, хлебадаркаю,
У кроў здзірала пальцы таркаю,
Калі на клёцкі драла бульбу.
Сваіх дзядоў ты памінала
*І ўсіх святых не абмінала.*

Бывала, што на згубу сваталі
І гналі ў высылку ў правінцыю,
Ды з заглушы начы асфальтавай
Ты прабівалася травінкай.
Крычала мала,
Болей змоўчвала
Не вінаватая нікому.
*І пакаёўкай засмочанай*
Ані прасілася ў харомы.
І храмаваю,
І прастольнаю
Калі бывала, дык не доўга.
Табе адзежынай прыстойнай
Была скарынаўская тога.
І знакамітыя абноскі
Ты не даношвала ніколі.
Сялянскі рыцар
Каліноўскі





Ірына ЖАРНАСЕК



## Дзве баразны

АПАВЯДАННЕ

Учора шэфы з горада капалі бульбу на Забегліцкім полі, а дзед Вінцук адвозіў яе на калёсах да бурта. А пятай гадзіне высокі кучаравы хлопец у чырвоным берэце, якога клікалі Жэнькам, выгукнуў:

— Адбой, пяхота! На сёння амба!

Хлопцы нібы толькі і чакалі гэтага клічу—рушылі да калёс, пачалі апаражняць вёдры.

— Вы што, мальцы? — не зразумеў дзед Вінцук. — Усяго ж дзве баразны засталося. Ды і тыя няпоўныя. Каму вы іх пакідаеце? На мароз, па ўсім відно, бярэцца. Такую бульбу грэх змарозіць, мальцы.

Шэфы пераглянуліся. Жэнька ад нечаканасці аж прысвіснуў:

— А гэта яшчэ што за новыя парадкі? Ты, дзед, не камандуй, у нас сваё начальства.

— І праўда, — азваўся тоўсты чарнявы хлопец, якога шэфы жартам клікалі Віні Пухам і які ўвесь час трымаўся паблізу Жэнькі. — Мы дзень адрабілі — ніхто не падкапаецца.

— Вы сабе, хлопцы, як хочаце, — сказаў дзед Вінцук, паляпваючы каня на грыве, — а толькі я, колькі жыву, такога дабра, — узняў ён з воза вялікую, бы рэпіна, бульбіну, — пад ногі не кідаў, а ў старасці тым болей грашыць не хачу. Па мне так: зрабіць трэба, як належыць, а не можаш — не барыся.

Жэнька падышоў да дзеда Вінцука, прыабняў яго і хітравата азірнуўся на сяброў:

— А хто вам сказаў, што мы кідаем дабро пад ногі? Заўтра прыедзем і зберам гэтыя няшчасныя дзве баразны.

— Пасля сённяшняга марозу, — патрос дзед Вінцук бульбінай перад Жэнькавым носам, — яна толькі на сівуху варта будзе.

— Дзед, а ў цябе што, прыёмнік у кішэні? Адкуль прагноз ведаеш? Ды і не вер ты ім — ілгуць, — жангліруючы некалькімі невялікімі бульбінамі, гукнуў Віні Пух.

— Я табе не дзед, а Вінцэнты Сцяпанавіч — свіней разам не пасвіў. Слухайце, хлопцы, кіньце выдурнасці: за гэты час, што вы стаіцё ды языкамі мяшташыце, усю бульбу выбралі б.

— Можа, і праўда? — нерашуча пераступіў з нагі на нагу невысокі рудаваты хлопец з густым рабаціннем на твары. — Пайшлі?

Але ніхто з месца не крануўся.

— Ну, дзела хазяйскае, — буркнуў дзед Вінцук. — Хочаце — сядзіце, хочаце — скачыце, а я як-небудзь і адзін збяру. Я прывык і пры месяцы працаваць.

— Ды канчайце вы, — занудзіў Віні Пух, — вячэра стыне, дзяўчаты маркоцяцца.

— Нічога, — дзед Вінцук кінуў першыя бульбіны ў вядро, — памаркоцяцца — мацней будуць любіць.

Хлопцы яшчэ крыху памарудзілі і без асаблівай ахвоты зноў узяліся за вёдры. Жэнька з Віні Пухам засталіся на месцы. Яны расклалі невялікае вогнішча і, прытанцоўваючы вакол яго, грэлі рукі, спрабавалі спяваць піянерскую «Картошку», але не ведалі добра слоў і хутка сціхлі.

Дзед Вінцук адвёз адзін воз да бурта, адтуль вяртаўся пахмурны і, вядома, не сказаў шэфам, што буртаўшчыкі паехалі ўжо з нейкай спадарожнай машынай дамоў. Каб гэта ўведалі шэфы — гамон быў бы ўсёй справе. І ён змоўчаў.

Праз хвілін дваццаць павесялелыя хлопцы высыпалі рэшту бульбы з вёдзер і перасмейваліся.

— А вы, Вінцэнты Сцяпанавіч, усёткі маладзец. А то прапала б бульба, як піць даць прапала б. Мароз бы я-як у-ударыў! — смешна прыцкаючы язык да зубоў, казаў рудаваты.

— Не дужа нешта тут падобна на мароз, — засумняваўся хлопец у ладнай паношанай фуфайцы.

Дзед Вінцук спадылба зірнуў на яго, паскроб патыліцу, задраў голаў і прабурчэў:

З пятлі
Гукаў табою волю.

Ускалыханы, ўзгадаваны
Табой,
Да скону закаханы
У кожны гук
Чароўны,
Крэўны,
Мая князёўна
І царэўна,
З табой я ў свяце,
У свеце, ў хаце,
Бо ты ў мяне
Адна, як маці,
Мова!

## Няма

Знікаюць ветраломныя дубровы,
Дубы
Як сведкі шчырыя вякоў
Ідуць на руны,
На трыбуны,
Дровы,
На зуб'е зграбных аграбель,
Цвікоў.

Шлях Млечны з неба,
Як галінка кмену,
Асыпацца гатовы ў забыцці.
Дубровы з атамных дубоў
На змену
Дуброў зялёных
Маюцца ўзрасці.

Бухматае
Дастане зоры веецце,
Уцягнуць дол
Таўсматыя ствалы.
Радарны слых
палыновы вецер
Не памянуць жалобныя сталы.

Дубы не ў засень возьмуць,
А заслепяць
Жахлівай кронай,
І не жалуды
З сукоў трывушчых упадуць
На глебу —
На многія вякі зграць гады.

І цень згарыць бярозак белакорых,
Перагарыць быцця зямнога пыл.
Каб спляжыць
Дрэвы жудасці пад корань,
Яшчэ няма
Ні тапароў, ні піл.

●

Ад першага ўспаміну,
Які ты помніш,
Да апошняга,
Дзе ўспомняць цябе,
Калі будзе такі, —
Толькі адно імгненне.
І гэтае імгненне —
Жыццё.

●

Пакуль іх няма, датуль
Нідзе не знаходзім спакою.
Калі прыходзяць яны, тады
Спакою зусім не маем,
Бо мы падключаны зноў
Да штодзённых турбот,
Якія прыглухлі патроху.
І зноў мы імчымся, бяжым
Па сцежках вэрхалу,
І ўжо ні ў гасцях, ні дома —
Усе мы ў дарозе трывогі.

●

У кожнага акуляры свае:
У світання ружовыя,
У паўдня працёрта-ясныя,
У адвячорка захуна-цьмяныя,
І чорныя акуляры ў начы.
І чалавек
Бачыць свой век
Праз гэтыя акуляры..

## Падабенства

На птушак і звяроў
Падобны ўсе мы,
На добрых і на злых,
Бо як адзін
Мы з аднае касмічнае сістэмы
Сваіх сцяжын,
Сваіх мясцін,
Хацін.

На голас,
Чалавеча, адгукніся,
Яшчэ ўсміхніся
Птушкам і лясам,
Яны і ты
Даўно ў чырвонай кнізе,
Якую ты завёў паспешна сам.

Хто пракрычыць табе,
Жаўна ці слонка,
Калі змутнее чыстая бруя,
Што ў кнізе
Пахаплівая старонка
Запоўнена
Апошняя
Твая?



Бусліны човен.

Фотаэцюд М. АМЕЛЬЧАНКІ.

— Разбярэшся тут цяпер — ўсё дары нагамі пайшло. З паўгадзіны таму было на мароз, а цяпер дык і не надта падобна...

Дзед Вінцук хітраваў. На мароз не паказвала ні цяпер, ні раней. Проста ён ведаў: калі не збяруць бульбу сёння, то застанецца яна тут назусім. Бо заўтра дзеля дзвюх баразён брыгадзір не пашле сюды людзей — гектары яшчэ стаяць нявыбраныя. І нічога тут не зробіш — ніхто і слухаць не захоча. А сказаць усё гэта шэфам? Як тут скажаш: і так цяперашнюю моладзь да зямлі не прыгнуць, а калі і ўдасца, то пасля пяці хвілін гатовы рукі аб штаны выцерці.

— Ну што, хлопцы-малойцы, сядайце — таксі адпраўляецца, — загадаў дзед Вінцук.

У наступную хвіліну хлопцы ўжо сядзелі на калёсах у два рады, падпёршы спінамі адзін аднаго. Ад ледзь бачнага вогнішча нага за нагу сунуліся Жэнька з Віні Пухам.

— Спяшайцеся-спяшайцеся, — гукнуў Жэнька, — там жа медалі будуць даваць.

Дзед Вінцук порстка азірнуўся і... хлабысь каня пугай. Пакуль хлопцы апамяталіся, Жэнькаў чырвоны берэт ужо цяжка было распазнаць у паўзмроку.

— Што вы робіце? — схапіў дзеда Вінцука за плячо рудаваты. — Зараз жа спыніце!

— Спыніш яго! — развесяліўся дзед Вінцук, неўпрыкмет тузаючы лейцы. — Ён, Гарбуз, гэткі — дзень будзе ледзьве ногі перастаўляць, а ўвечары затое, не раўнуючы, як тая ракета ляціць.

Шэфы тузалі дзеда Вінцука, але той прыкладваў руку да вуха, паказваў, што не чуе, — і калёсы несліся далей. Пад Сёмкавай гарой Гарбуз сцішыўся, і дзед Вінцук азірнуўся:

— Ва ўсіх языкі цэлыя? Па нашых дарогах ездзячы, мальцы, трэба моцна трымаць язык за зубамі. Без яго застацца не жарты, а потым што?

Каля клуба іх сустрэў аграном. Пачуўшы пра здарэнне, ён кінуў на старога знішчальны позірк і паслаў свой «газік» сустрэць Жэньку з Вінні Пухам.

Дзед Вінцук адпрагаў каня і чуў, як аграном тлумачыў шэфам:

— Не звяртайце вы ўвагі — у яго заўсёды мухі ў носе.

— І чаго цягнецца на працу? Сядзеў бы сабе на печы, — падаў голас нехта з шэфаў.

— А табе каб далі волю, дык, пэўна б, ужо цяпер на печ залёг бы ды пляваў у столь, — вынырнуў з цемры дзед Вінцук.

Хлопцы зарагаталі.

«Пайшлі вы ўсе... — думаў дзед Вінцук, закручваючы пута на Гарбузовых нагах. — Каб я болей хадзіў на тое поле!..»

●

Дзед Вінцук нехаця калупнуў раздругі жоўтых наздраватых бульбяных аладак — адсунуў патэльню. Сядзеў і пазіраў, як дурэлі клубкі-кацяняты. Яны то падскокваючы насіліся адзін за адным, то вокамгненна павісалі на белых карункавых фіранках, то весела папіскваді на печы.

— Ну, а сягоннека якая муха ўкусіла? — на парозе, упёршы рукі ў бокі, стаяла баба Юсця.

— Сягоннека, — перадражніў яе дзед Вінцук, — мяне ўкусіў авадзень.

— Во дык не пашэнціла чалавеку, — паківала баба Юсця галавой. — Гэтак балюча ён цябе абкусаў, што і на работу не змог ісці?

— А ты мне што за начальнік? — агрызнуўся дзед Вінцук. — Не захацеў — і не пайшоў. Пенсіянер. Іншыя вунь як першую пенсію ў кішэню пакладуць, так у калгас і ні нагой. А я нарабіўся — дай бог кожнаму.

Ён падняўся ад стала, тузануў на сябе дзверы і выйшаў, прыгаворваючы:

— Кожнаму разжуй і ў рот пакладзі: чаго гэта, чаго тое, а чаму не гэтак, а чаму не так.

Пасярод дрывотні пастаяў крыху, потым вырваў з калоды сякеру і скіраваў да лазні, дзе чарнеў ссохлы стары вішняк. Вішні змерзлі гэтай зімой, а ён, гаспадар, так і не выбраўся за ўсю вясну, лета і амаль цэлую восень іх ссекчы. Усё часу не хапала, усё пільніца пільніцу падганяла.

— Нічога-нічога — бубніў сабе пад нос дзед Вінцук, ідучы разораю, — і мы цяпер будзем з вусамі.

Ён пахадзіў туды-сюды вакол вішняку — прыглядаўся, прымерваўся. Затым выцяг з гушчару стоўчык, які забыліся тут яшчэ тады, як збіралі вішні, прысеў на яго, дастаў з кішэні акуратна складзеную так, што выглядала маленькай кніжачкай, газету, пачак махоркі і пачаў круціць казіную ножку.

— Во дзе ён прымасцюрыўся, уцёк ад людскога вока і дыміць сабе. А яго тут шукаюць, пана гэткага.

Дзед Вінцук азірнуўся — ад хлява наўпрасткі па бульбянішчы да яго шыбавала баба Юсця, а побач стараўся не паддацца ёй у хадзе брыгадзір Янук Карандзей.

— Пайшла пісаць губерня, — перацепнуў дзед Вінцук плячыма і дэманстратыўна адвярнуўся. Ён паставіў нагу на пярэчкі стоўчыка і з абыякавым выглядам пачаў злёгку пастукваць крываватым указальным пальцам па карычневым пачку, з якога тоненькім струменьчыкам сыпалася ў падстаўленую газетную канаўку махорка.

— Добры дзень, — здаля павітаўся Карандзей.

— Каму добры, а каму і не, — адгукнуўся дзед Вінцук, няспешна хаваючы пачак махоркі ў кішэню шваркі.

Баба Юсця насцярожана зірнула на дзеда Вінцука, на Карандзея:

— Што, зноў нешта натварыў?

— Можа, без цябе здолеем разабрацца? — буркнуў дзед Вінцук.

— Ты разбярэшся. Мне ўжо бабы казалі, як ты ўчора з шэфамі разабраўся. Ліха яго ведае, чалавека гэткага, — невядома каму пажалілася баба Юсця, — маўчыць-маўчыць, а пасся як вытварыць што, дык хоць ты ў пельку ад людскіх вачэй бяжы.

— Вось чаго ты раз'ёселілася? — крутнуўся дзед Вінцук. — Не з той нагі сёння паднялася, дык так і скажы.

— Гэта ты ўсю жызню не з той нагі ўстаеш. Як перабытаў яшчэ, як у калысцы спаў, так і жывеш. І нечага зубы прадаваць. Падумаў бы лепей: каму гэта прыемна, каб кожны Вінцук свой нос ва ўсе дзіркі соваў?

— Цётка Юстына, — дакрануўся да яе пляча брыгадзір, — не хвалюйцеся вы так. Усе мы не святыя, у кожнага, можна сказаць, свой пeражытак ёсць.

— Даж-жыліся, — плюнуў дзед Вінцук пад ногі, — скажаш праўду — перажыткам абзавуць.

— А калі хочаш знаць, дык ты перажытак і ёсць! Бо цяпер кожны стараецца ў згодзе з людзьмі жыць. Адзін ты, як той корч стары на сцежцы: як яго ні абмінай, а ён пад ногі трапіцца. Цьху! — выпаліўшы гэта адным духам, баба Юсця папраставала да хлява.

— А-та-та-та! Нагаварыла. Насакатала. Пэўна ж, камень з душы зваліўся, — дзед Вінцук памаўчаў крыху, потым спадылба зірнуў на панылага Карандзея. — Ну, а табе, рукавадзіцель, што трэба ад Перажытка?

(Заканчэнне на стар. 10—11).

# ГЕАГРАФІЯ СУСТРЭЧ: АД КІЕВА ДА ЧАРНОБЫЛЯ

## У КІЕВЕ ПРАЙШЛІ ГАСТРОЛІ ДЗЯРЖАЎНАГА ТЭАТРА МУЗЫЧНАЙ КАМЕДЫІ БССР

Герой шырока вядомага твора Э. Растана Сірано дэ Бержэрак за дзевяць дзесяцігоддзяў свайго сцэнічнага жыцця абышоў тэатры амаль усяго свету. Гэтым летам кіяўляне і госці сталіцы Украіны пабачылі раней невядомага ім Сірано — у інтэрпрэтацыі беларускіх майстроў музычнай камедыі. Яны прапанавалі варыянт твора Э. Растана, створаны па матывах класічнага твора кампазітарам С. Пажлаковым. І спектакль «Сірано», і феерычны атракцыён А. Журбіна «Гуляем у прынца і жабрака» пакуль што можна ўбачыць толькі ў выкананні артыстаў Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі БССР. Ці не таму самая пільная ўвага гледача была скіравана, у першую чаргу, на гэтыя дзве работы? Немалую цікавасць выклікалі і іншыя спектаклі гастрольнага рэпертуару мінчан, перш за ўсё—мюзікл Ф. Лоу «Мая цудоўная лэдзі» і аперэта Ф. Легара «Фраскіта», якія не ідуць цяпер на сцэне Кіеўскага дзяржаўнага тэатра аперэты. Апроч таго, нам былі паказаны «Ноч у Венецыі» і «Лятучая мыш» І. Штрауса, «Вясёлая ўдава» Ф. Легара.

Ва ўкраінскіх гледачоў не раз узнікала пытанне: чаму сярод такога складанага і ў цэлым цікавага рэпертуару не знайшлося месца беларускай музычнай камедыі? Аказалася, прычына даволі банальная: памеры сцэны Кіеўскага тэатра аперэты не дазволілі нашым гасцям разгарнуць ні «Дзяніса Давыдава» А. Мдзівані, ні «Судны час» або «Несцерку» Р. Суруса—спектаклі з вялікімі масавымі карцінамі.

Гастрольны месяц праляцеў, як адзін дзень. Здавалася б, толькі наладзілася работа на новым месцы, і вось трэба падсумоўваць зробленае... А папрацавалі беларускія артысты плённа. За месяц—трыццаць прадстаўленняў на сцэне Кіеўскага дзяржаўнага тэатра аперэты! Гэта значыць, што ў чэрвені ў іх не было ніводнага выхаднога. Ды яшчэ выязныя мерапрыемствы, у прыватнасці канцэрты. Напрыклад, у Чарнігаве іх было два, некалькі—у воінскіх часцях і ў шпіталі МУС. 14 чэрвеня—памятны дзень для мінскіх артыстаў. Яны правялі яго ў Чарнобылі, дзе адбыліся хвалюючыя сустрэчы і канцэрты для работнікаў АЭС і ўсіх, хто прымае ўдзел у ліквідацыі вынікаў аварыі. Неўзабаве пасля гэтага калектыў тэатра пералічыў свой аднадзённы заробак (а гэта больш чым дзве тысячы рублёў) у фонд Чарнобыля.

Пералік добрых спраў нашых гасцей з братняй рэспублікі можна прадоўжыць. На працягу месяца яны пастаянна прапагандавалі сваё мастацтва на Украінскім радыё і тэлебачанні. Кажуць, на спектаклях і канцэртах у час гастроляў пабывала больш за трыццаць тысяч чалавек. А хто можа падлічыць, колькі соцень тысяч гледачоў і слухачоў глядзелі па тэлебачанні і слухалі па радыё перадачы пра творчасць калектыву тэатра і яго вядучых майстроў?

Безумоўна, крытыка, найперш беларуская, яшчэ скажа пра плюсы і мінусы ў творчасці гэтага параўнальна маладога калектыву. Тым больш, што ў яго рабоце заўважаеш моманты дыскусійныя, а то і проста супярэчлівыя. Пакуль рана гаварыць, што менавіта вырасце ў традыцыю, а што будзе адкінута як непрымальнае. Час пакажа. Аднак сёння радуе, і гэта паказалі кіеўскія гастролі, што беларускія майстры музычнай камедыі смела эксперыментуюць, шукаюць новыя выяўленчыя сродкі. Гэта дае падставу спадзявацца на далейшыя змястоўныя старонкі ў творчай біяграфіі Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі БССР. А на адной з сённяшніх яе старонак з'явіўся Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета УССР аб узнагароджанні беларускага тэатра Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Украінскай ССР. Віншуючы сваіх братоў з высокай адзнакай, кіяўляне ўжо зазіраюць у наступнае тэатральнае лета і шчыра кажуць мінскім артыстам: «Ласкаво просімо!»

**У. ПАЛАЖЧАНКА.**

г. Кіеў.

# ЯК АБНАЎЛЕННЕ ФАРБАЎ НА КАРЦІНЕ...

## «Севільскі цырульнік»: маладое пакаленне выканаўцаў

Выпраўляецца ў жыццё новы спектакль. Газета абвясціла прэм'еру. Потым надрукавала рэцэнзію. Вось і ўсё. Сачыць за далейшым лёсам спектакля не выпадае: толькі паспявай арыентавацца ў багатым на бягучыя падзеі мастацкім жыцці! З'яўляюцца новыя пастаноўкі, у тэатр прыходзяць новыя выканаўцы, адзначаюць свае юбілейныя даты сталыя майстры. А той, некалі прэм'ерны, спектакль няхай жыве свой век па-за ўвагай прэсы...

Зрэшты, чаму — «той»? Хто ж не ведае: немагчыма двойчы паглядзець адзін і той жа спектакль (калі толькі ён не запісаны на відэастужку, не ператвораны ў фільм). І ўсё ж у друку мы гаворым звычайна аб прэм'ерах і вельмі рэдка звяртаем увагу на будзённыя, радавыя паказы спектакля.

Давайце сёння зробім выключэнне для аднаго з вечароў у Дзяржаўным тэатры оперы і балета БССР. Паверце, ён варты асобнай размовы, хоць на першы погляд нічым не вылучаўся з бягучай афішы.

**«Севільскі цырульнік» Д. Расіні пастаўлены сёлета пад музычным кіраўніцтвам Я. Вашчака рэжысёрам М. Ізворска-Елізар'евай у сцэнаграфіі Л. Статланда. Пра спектакль, пра два яго асноўныя выканаўчыя склады «ЛіМ» пісаў (рэцэнзія Т. Шчарбаковай «Фігара — тут!» за 27.02.86 г.). І вось — новае аблічча знаёмага ў агульных рысах спектакля: мы пачулі і пабачылі ў ім іншых выканаўцаў. І паярчэлі, зазіхацелі ад свежых мазкоў фарбы старадаўняга опернага палатна. І памаладзела душою класічная камедыя. І не трывіяльная «прэм'ернасць», а шчырая ажыўленасць і захапленне апанавала залу (залу, на жаль, не спешчаную аншлагамі). І думалася: неўпрыкмет у нашай опернай трупе аформілася маладзейшае пакаленне цікавых салістаў, пераважна гадаванцаў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, якія выйшлі на сцэну ў той вечар.**



Фігара — А. ДЗІЧКОЎСКІ.

Артыст А. Дзічкоўскі выступіў у ролі Фігара ўпершыню. Стварыў вобраз немітуслівага, кемлівага, упэўненага ў сваёй незалежнасці пестуна лёсу. Хітраватым вокам, і як бы збоку, назіраў ён жыццё гаспадароў: здагадваюцца яны пра тое ці не, хочуць не хочуць, а «заказвае музыку» ў гэтым жыцці ён, цырульнік Фігара!

Прыемнае ўражанне — Разіна Н. Рудневай. Лёгка, чыста гучала ў гэтай віртуознай каларатурнай партыі яе мецца-сапрана, голас з прыгожымі празрыстымі «глыбінямі». Грацыёзная хітрынка, найграная наіўнасць і прытоенае ў глыбіні вачэй штосьці накшталт мудрага каварства будучай графіні —усё гэта надавала гераіні Н. Рудневай жывасць і абаяльнасць.

Пераканальны быў ва ўзроставай ролі А. Кеда — доктар Бартала. Звычайная трактоўка тут — падмануты дурань, з якога дружна пасміхаюцца ўсе героі оперы. Артыст А. Кеда, не ператвараючы свой персанаж ў парадыйнага фігляра, увасобіў досыць камічны характар перапоўненага пачуццём уласнай годнасці і фанабэрыстага, і ох якога ўвішнага, бадзёрага, руплівага апекуна Разіны — упартага раўнівага дзівака.

А з якім гумарам «паднесла» сваю ролю Л. Крывёнак — Берта! Манеры, паходка, кіслая грымаса спрактыкаванай пляткаркі: выбелены твар манерніцы (а ўспомніць, як паспешліва, нечакана для гледача, смехатворна дастае яна з-за карсажа ёмістую каробку з пудрай — каб прычапурыцца і потым ужо адчыніць дзверы госцю!). І раптам у арыі Берты — кранальныя лірычныя ноткі прызнання пра безнадзейнае пачуццё да Бартала... А ў фінале — дзелавітае і катэгарычнае, доўгачаканае, смешна-дэманстрацыйнае «апякунства» служанкі над ашуканым сваім гаспадаром.

Дон Базіліо ў выкананні М. Рысава фігура каларытная. Высокі рост, густы яркі бас, няспешнасць рухаў і прытым — гратэскны грым, неверагодных памераў і форм капялюш, прадмет сур'ёзнай ува-



Дырыжыруе У. ГЛУШАКОЎ.



Берта — Л. КРЫВЁНАК.



Дон Базіліо — М. РЫСАЎ.

# ДЗВЕ БАРАЗНЫ

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 8—9).

Карандзей моўчкі праглынуў пілюлю, ведаў: нешта тлумачыць цяпер — дарэмная справа. Ён ужо шкадаваў, што прыйшоў зарана, калі дзед яшчэ не астыў.

— Закурыць маеш? — запытаўся Карандзей.

— А чаму ж не, — палез дзед Вінцук у кішэню і хітравата прыплюснуў правае вока. Толькі ж я, выбачай, братачка, нашу раёнку куру. Табе гэта, пэўна, не надта зручна: там жа на кожнай старонцы наш «Прагрэс» хваляць, партрэт нядаўна твой быў. Зухаваты такі. Яго, здаецца, не скурыў — баба недзе схавала.

— Ну добра, — падаў руку Карандзей. — Выбачай, Сцяпанавіч, што ад спраў адарваў. Не буду марнаваць час — пайду, — рушыў ён да алешніку, пад якім стаяў ягоны запырсканы гразёй матацыкл.

— Чаго прыходзіў? — гукнуў яму наўздагон дзед Вінцук. — Не курыць жа?

Карандзей прыпыніўся, насунуў на патыліцу шапку так, што вытыркнуўся выцвілы на сонцы колеру саломы чуб, коратка сказаў:

— Ты ж і сам, дзядзька Вінцук, ведаеш.

— З-за ўчарашняга?

— Што мне тое ўчарашняе — сёння вунь буртаваць няма каму. Макрак адбывае радоўку, а гарадскім жа бурт не даручыш.

Памаўчалі.

— Дзядзька Вінцук, — падышоў бліжэй брыгадзір, — калі б у мяне хапала людзей, ці ж бы я пайшоў вас прасіць? Думаеце, мне гэта вельмі даспадобы? Куды лягчэй было б раздаць нарад, а пасля толькі правяраць, як Сямчонак рабіў некалі. Гэтак яно лацвей, не трэба было б шэфам кланяцца: «Вы ж калі прыехалі, то хоць як-небудзь ды рабіце». Ці, можа, мне вялікая ахвота кожную раніцу бегаць па вёсцы і пенсіянераў зазываць?

— Я тое, што ты так сцяжарыўся за мной, — з крыўдай у голасе прабубніў дзед Вінцук.

Карандзей змоўчаў.

— Ты во што лепей, брыгадзір, скажы: калі гэта скончыцца?

— Што?

— Дакуль вы там у канторы лайдакоў выпісваць будзеце? Выручацелі знайшліся, ядры іх...

— Каб жа я сам гэта ведаў, — уздыхнуў нечакана Карандзей і прысеў на ўзмежак. — Ён сарваў высахлую мятлушку, пажаваў яе — зірнуў на дзеда: — Ды і не адны лайдакі ездзяць да нас. Вунь на касьбе мужчыны з камбікормавага працавалі — не кожны з нашых згоніцца з імі.

— Сказаў! — хмыкнуў дзед Вінцук. — З кім тут ёсць цяпер зганяцца! Адны грыбы старыя і пазаставаліся. Паспрабавалі б яны стаць са мной у пракос, як мяне яшчэ да зямлі не гнула ды на печ не цягнула.

— А я што кажу? Калі ўжо сваіх сіл не стае, то не вельмі будзеш выбіраць. А што б вы параілі? — павярнуўся Карандзей да дзеда Вінцука. — Адмовіцца ад дапамогі шэфаў, закрычаць, што мы самі з вусамі, а пасля ў галёш сесці і галёшам зверху прыкрыцца, як пачнуць нас дубасіць хто адкуль?

— У галёшы яно не дужа фацэтна, — задуменна прамовіў дзед Вінцук. — Але ж і з гэткімі, як гэты... Жэнька, у ракету не возьмуць.

— І што ён вам так даўся ў знакі, гэты Жэнька? Звычайны хлопец. Ды ён і сам ужо не рады, што ўчора выробляў там якое ліха.

— Пэўна ж, ілжэш?

— На якое ліха мне лгаць? — паціснуў плячыма Карандзей. — Мне іхнія хлопцы сёння ўранні адразу сказалі: «Нядобра ўчора выйшла, наш Жэнька-ветрагон пакрыўдзіў вашага Вінцэнта Сцяпанавіча, а цяпер і сам не рады».

Дзед Вінцук пільна паглядзеў на Карандзея:

— А не маніш?

— Ну, Сцяпанавіч, цябе паслухаць, дык я не брыгадзір, а манюка нейкі.

— Ладна, — павесялеў дзед Вінцук,— байкі будзем баяць на тым свеце. Падкінеш да бурта?

— Аб чым гаворка? — падхапіўся Карандзей і засмяяўся. — Што б я рабіў без вас, Вінцэнты Сцяпанавіч?

— Як памру — убачыш.

— Ну-у-у...

— Што «ну»? Паехалі.

Праз хвіліну Карандзей з дзедам Вінцуком імчалі на матацыкле. Задаволены сваімі дыпламатычнымі здоль-



Бартала — А. КЕДА, Альмавіва — народны артыст РСФСР Э. ПЕЛАГЕЙЧАНКА.



Разіна — Н. РУДНЕВА.

гі Базіліо. Славутая арыя пра паклёп разыграна была М. Рысавым як сапраўдны, свяшчэнны для ягонага персанажа, рытуал!

Эпізадычная асоба — Фіярэла. Ды артыст В. Скарабагатаў зрабіў яе прыкметнай: камічныя змоўніцкія інтанацыі, смешная пастава, артыстычная пластыка рук (Фіярэла «дырыжыруе» ігрой вулічных музыкантаў, якія акампануюць графу Альмавіве). Дарэчы, далікатным, добрым партнёрам быў для маладзейшых салістаў вопытны спявак і акцёр Э. Пелагейчанка ў ролі Альмавівы.

**Пра дырыжора, які вёў спектакль у той вечар, скажу больш падрабязна: на маёй памяці аналагічных дэбютаў за пультам Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР не было. Ён, У. Глушакоў, скончыў музычную школу пры Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі па класе харавога дырыжыравання, атрымаў накіраванне ў Маскоўскую кансерваторыю, паспяхова здаў уступныя экзамены. Паралельна з асноўным курсам два гады факультатыўна займаўся ў класе опернасімфанічнага дырыжыравання. Атрымаў дыплом па спецыяльнасці «харавое дырыжыраванне» і, адслужыўшы ў войску, вярнуўся ў родную школу — выкладчыкам. За гэтыя паўгода, што быў у Мінску, прайшоў стажыроўку ў тэатры оперы і балета БССР. Займаўся з У. Глушаковым народны артыст СССР Я. Вашчак.**

**Засвоіўшы партытуру «Севільскага...» на спеўках, уроках з канцэртмайстрам і г. д., дэбютант правёў адну аркестравую рэпетыцыю і вось упершыню стаў за пульт «на публіцы». «Я не пашкадаваў ніводнае мінуты, патрачанай на гэтага хлопчыка», — нешматслоўна, але ёміста характарызаваў Я. Вашчак свайго вучня пасля першай жа дзеі оперы.**

Спектакль увогуле прайшоў дастойна. Дэбютант, што называецца, задаў тон ва уверцюры: лёгкім, скупым, пункцірным жэстам ён нібы пазначыў імклівы, у духу буфонных скорагаворак, тэмп. Так, ён не дапусціў ніводнага лішняга, неасцярожнага жэсту (было гэта нежаданне «выстаўляць эмоцыі», свядомая эканомнасць дырыжорскіх сродкаў ці зразумелая перастрахоўка — меркаваць цяжка). З яго стрыманай, напачатку крыху сцятай постаццю дзівосна кантраставаў нястрымны рух музыкі. Дырыжор амаль беспамылкова адчуваў фразіроўку салістаў, досыць стабільна падтрымліваў гукавы баланс паміж вакалам і аркестравай партыяй. Пад ягоным кіраўніцтвам не «рассыпаліся» складаныя ансамблі, на якія багаты твор Д. Расіні (асабліва боязна было за шматлюдны, шматгучны фінал I дзеі — ды У. Глушакоў дастойна правёў праз падводныя рыфы складанай ансамблевай сцэны і салістаў, і хор, і аркестр).

**Словам, добры тонус таго спектакля — заслуга і ягонага дырыжора. Так і хочацца сказаць: перспектыўнага, ды не люблю прагнозаў. Скажу толькі, што У. Глушакоў апантана марыць аб прафесіі опернасімфанічнага дырыжора і мае намер прадоўжыць вучобу — менавіта па гэтай спецыяльнасці — у Маскоўскай дзяржаўнай кансерваторыі.**

Наш тэатр оперы і балета меў добры вопыт работы з маладымі кадрамі, нездарма на яго базе некалі тройчы праводзіўся Усесаюзны фестываль творчай моладзі музычных тэатраў. Тыя колішнія, маладзёжныя па духу, фестывальныя спектаклі нагадала і прыўзнятая атмасфера «Севільскага...». У гэтым спектаклі раскрыліся свежыя творчыя сілы тэатра.

**С. БЕРАСЦЕНЬ.**

Фота Ул. КРУКА.

НА АБСЯГАХ КУЛЬТУРЫ

Сярод імёнаў сучасных беларускіх архітэктараў, якія маюць уласны творчы почырк, своеасаблівае эстэтычнае «крэда», нельга не назваць імя лаўрэата Ленінскай прэміі і прэміі Ленінскага камсамола Беларусі Леаніда Левіна.



# У БЕТОНЕ І МЕТАЛЕ

Назавём яго праектныя работы за апошнія 10—15 гадоў, многія з якіх ён выканаў у складзе творчых груп: будынак ВДНГ (1969—70), добраўпарадкаванне праспекта Машэрава (1972—76), праект дэталёвай планіроўкі цэнтра Мінска (1970—74), будынак Мінскага гаркома партыі (1980), станцыя метро «Плошча Леніна» (1983).

Нельга не прыгадаць і яшчэ адзін праект, у распрацоўцы якога прымаў удзел Л. Левін. Гэта праект рэгенерацыі Верхняга горада (раён плошчы Свабоды, вул. Інтэрнацыянальнай, Бакуніна, Герцэна, Гандлёвай). Ён быў удастоены медаля Саюза архітэктараў СССР на аглядзе лепшых праектных работ 1985 года. У праекце раён Верхняга горада не толькі аднаўляецца з характэрным для яго гістарычным каларытам, але і прыстасоўваецца да новага жыцця, дапаўняючы культурнае асяроддзе цэнтра горада будынкамі грамадскага прызначэння, звязанымі з гістарычным мінулым сталіцы.

Ёсць яшчэ адна галіна дзейнасці, у якой раскрыліся яго здольнасці. Гэта праектаванне мемарыяльных збудаванняў, удзел у стварэнні мемарыяльнага комплексу «Хатынь» (1970), помнікаў Янку Купалу і Якубу Коласу (1974), комплексу «Прарыў» ва Ушачах (1983), помнікаў У. І. Леніну ў Нароўлі (1982) і Барысаве (1986), мемарыяльных знакаў у памяць Мінскага падполля на плошчы Леніна і ў Цэнтральным скверы (1982), «Салдацкае поле» ў Валгаградзе (1985) і іншыя.

Мемарыяльны летапіс Л. Левіна пачынаецца з серыі помнікаў, адзначаных прэміяй Ленінскага камсамола Беларусі ў 1967 годзе. Сярод іх — першаму залпу «кацюшы» ў Оршы, подзвігу Гастэлы ў Радашковічах, падпольшчыкам Асінторфа, братам Цубам у Салігорску, Сільніцкаму пад Віцебскам. Ужо ў іх праявілася ўменне перадаць у мастацкім сімвале сутнасць падзеі, уменне арганічна звязаць архітэктурны вобраз са скульптурай. Мемарыял «Хатынь» (архітэктары Ю. Градаў і Л. Левін, скульптар і архітэктар В. Занковіч, скульптар С. Селіханаў) робіць глыбокае эмацыянальнае ўражанне на кожнага трагічнай сілай вобразаў і асацыяцый. Бетонныя стэлы, завершаныя званамі, якія нагадваюць каміны спаленых вёсак, сталі сімвалам нацыянальнай трагедыі і атрымалі ўсеагульную вядомасць.

З Хатыні пачынаецца моцная садружнасць Л. Левіна з архітэктарам Ю. Градавым. Затым іх творчы «тандэм» дапоўніў скульптар А. Анікейчык.

Леанід Левін—шматразовы ўдзельнік конкурсаў рознага рангу. Вострае пачуццё мастацкага вобраза, заўсёды новая, сучасная і арыгінальная трактоўка тэмы дазваляе яму выйграваць у творчым спаборніцтве. Яго праекты рэалізуюцца не толькі ў Беларусі.

У помніку воінам-бухарцам, што загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, збудаваным у 1976 годзе, галоўнай кампазіцыяй ансамбля стала рэльефная выява сонца, на адным з прамянёў якога—постаць салдата. На нахільнай бакавой сцяне, над праточным арыкам —шматлікія імёны загінуўшых у баях бухарцаў. На плошчы мемарыяла разбіта клумба кветак у форме зоркі, што нагадвае след разрыву снарада.

Своеасабліва і пераканаўча задуманы мемарыял «Салдацкае поле», узведзены ў Валгаградзе. У параўнанні з грандыёзным ансамблем Мамаева кургана мемарыял вырашаны ў выглядзе сумежных участкаў двух палёў—поля міру і поля вайны. У Валгаградзе, дзе праходзілі гарачыя баі, зямля ўсеяна «жалезам вайны»— асколкамі разарваных мін і снарадаў, патронамі, рэшткамі баявой тэхнікі на кожным метры зямлі. На «полі міру» яны сабраны, і чыстае поле засеяна пшаніцай, на «салдацкім полі» гэтае сабранае жалеза і снарады зварaны ў своеасаблівую «скульптуру», якая вытыркаецца са стылізаванай варонкі выбуху. Дзіўным кантрастам гэтаму «салдацкаму полю» пастаўлена на яго краі бронзавая фігура маладой дзяўчыны з трохкутным салдацкім канвертам. Кволая, кранальная пастава, як сімвал новага жыцця, за якое змагаліся і загінулі салдаты.

Цікавы праект мемарыяла пад Ізюмам Харкаўскай вобласці. Ён размешчаны на высокім узгорку ў выглядзе своеасаблівага пантэона, да якога вядзе звілісты ход, умацаванага нахіленымі «бярвеннямі» з бетону. На вяршыні вялікія пілоны абмяжоўваюць унутраную прастору «пантэона» з палаючым тут Вечным агнём.



Мемарыял на месцы спаленай карнікамі Шунёўкі.

У свой 50-гадовы юбілей Л. Левін поўны творчых сіл і задум.

**В. АНІКІН,**
**заслужаны архітэктар БССР.**

насцямі брыгадзір націскаў на газ. Дзед Вінцук прытрымліваў шапку на галаве, раз-пораз высоўваўся з-за Карандзеевых плячэй і зноў хаваўся.

Шэфы палуднавалі. Дзед Вінцук кіўнуў ім і ўзяўся за вілы: упэўніўся, ці добра прыкрыта бульба, там-сям падправіў, падклаў болей саломы.

— Вінцэнты Сцяпанавіч, — наблізіўся да дзеда Вінцука Жэнька са слоікам малака ў руках. Ён азірнуўся на сяброў і ўрачыста прамовіў: — Што было — тое вадой накрылася. Давайце вып'ем міравога па слоіку малака і — кропка!

— Я папалуднаваў, — зманіў дзед Вінцук.

— Ну, як знаеце. Я на вас не крыўдую.

Дзед Вінцук маўчаў. Тады Жэнька нахіліўся бліжэй да яго і, малоцячы сябе кулаком у грудзі, загаварыў:

— Вы думаеце, што мы ўсе такія-сякія, што нам на ўсё наплюваць? А мы ўсё разумеем і спа-чу-ва-ем вам!

— Сябе ты лепей пашкадуй, спачувацель, —зазлаваў дзед Вінцук і адышоўся.

«Усе разумнымі робяцца, як насамі натаўчэш, нібы тых кацянят сляпых, — думаў дзед Вінцук. — Усім тады пачынае балець тое, што раней не балела».

Крыўдна было ўсё гэта дзеду Вінцуку, крыўдна і незразумела. Ды і як зразумець такое чалавеку, які ўсё жыццё пражыў на зямлі. Гэта ж каб мех гэткай бульбы ў сорак трэцім — за сто вёрст пабег бы па яго, а яны вунь гатовыя гэты мех пад ногі стаптаць...

Даўно баліць усё гэта дзеду Вінцуку, ды толькі не любіць ён пра свой боль гаварыць. Старыя, яны часам гатовыя не паесці, а толькі дай ім пра гэта пагаварыць. Як збярэцца колькі пенсіянераў падыміць цыгаркамі, так і пачынаецца: даўней не гэтак было, даўней людзі з мазаля жылі, даўней... Болей за ўсіх стараецца тады Пётра Баравік. Дзед Вінцук адно моўчкі пасмейваецца, паглядаючы, як Пётра размахвае рукамі і праз слова лаецца. Хто лепей, як не дзед Вінцук, ведаў, які з яго быў працаўнік. Разам кавалерамі былі. Дык гэты самы крыкун тым і славіўся, што заўсёды з калом на вечарынкі хадзіў, а пасля, забіўшыся на гарышча ці пад нечы стог, колькі дзён высыпаўся і гаіў сінякі. Гэта ён цяпер разумны, бо Сцепанідзіным клопатам гаспадарка паднялася. Гас-па-дар! Лямант усчыняць усе разумныя, а што тут горла драць і на каго? Свае дзеці вунь па свеце раз'ехаліся — не збярэш. Чужых яно лацвей вучыць. Адмоўчваўся дзед Вінцук, калі мужчыны дзівіліся на сучасную моладзь, адно слухаў, потым лез у кішэню па махорку — ладзіў самакрутку. Пальцы ягоныя ў гэткія хвіліны злёгку дрыжэлі, і з-пад іх сыпалася дзеду на калені махорка. Потым ён падымаўся, націскаў на галаву шапку. У такія дні была зазвычай перасолена альбо недасолена вячэра, пад нагамі блыталіся каты, ці яшчэ якая здаралася немач. Іншым разам дзед браўся пісаць лісты: Віцьку — у Нарыльск, Таньцы — у Гур'еў, Верцы — у Харкаў. Напачатку пісаў порстка, размашыста, потым пачынаў крэмзаць, нарэшце камячыў паперу і кідаў яе на прыпек. І толькі аднаго разу паслаў такі ліст. Віцьку. Адказ прыйшоў праз два з лішнім месяцы. Увесь ліст месціўся на адной старонцы. Унізе, за незразумелымі літарамі P. S., было напісана: «Дзіўныя ты, бацька, задаеш пытанні. Але ж я не крыўдую: розныя ў нас клопаты, бацька».

Пасля гэтага Віцькавага ліста дзед Вінцук яшчэ болей прыціх, спахмурнеў. А аднаго разу ледзь не набіў бабу Юсцю, калі яна ні з таго, ні з сяго ўсхліпнула каля печы: «Як гляну на вокны Восіпавай хаты, аж сэрца млее. Гэта ж і нашы вокны людзі некалі дошкамі крыж-накрыж пазабіваюць, а па хаце мышы будуць шмыгаць».

«Пляцеш абы-што»,—крыкнуў тады дзед Вінцук і замахнуўся на бабу Юсцю. А грудзі нібы абцугамі хто сціснуў. З таго дня боль гэты часта паўтараецца. Як сцісне іншы раз — на свет не хочацца глядзець. А які лекар гэткую хваробу вылечыць? Якія лякарствы патрэбны? Няма, мусіць, на свеце лякарстваў гэткіх...

Позна ўвечары, кладучыся спаць, дзед Вінцук дастаў з шуфляды Віцькаў ліст, каторы ўжо раз перачытаў яго і доўга сядзеў, абапёршыся рукамі на стол.

«Сын не крыўдуе, гэты... у чырвоным берэце таксама... Як-кія добранькія!... Быццам згаварыліся — раіліся ў галаве думкі. — А хто ў мяне запытаў, на каго і на што я маю крыўду?»

Потым ён па звычцы ўключыў радыё. Роўны мужчынскі голас казаў: «Глыбока ў сэрца запалі яму словы бацькавага наказу: «Зямлю, сынок, любіць трэба...»

Дзед Вінцук ірвануў з разеткі шнур: «Любіць яно не цяжка — мазалёў не нагоіш, пот не пацячэ...»

**НА АБСЯГАХ КУЛЬТУРЫ**

## *На атрыманне Дзяржаўнай прэміі БССР*

# ГОРАДУ-ГЕРОЮ, ГОРАДУ-ПРАЦАЎНІКУ

Манументальная пластыка займае сёння адну з найбольш актыўных пазіцый у эстэтычным і ідэйна-маральным выхаванні людзей. Сучасная манументальная скульптура ва ўзаемадзеянні з архітэктурай адыгрывае арганізуючую ролю ў вырашэнні праблем горадабудаўніцтва, напаўняючы новыя архітэктурныя ансамблі духоўнасцю, а часам становячыся кампазіцыйнымі дамінантамі буйных горадабудаўнічых комплексаў.

Узведзены ў сталіцы Беларусі ў 1985 годзе да 40-й гадавіны Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне манумент «Мінск — горад-герой» адразу заняў прыкметнае месца ў шэрагу збудаванняў-сімвалаў вялікага горада. Гэты манумент адносіцца да асабліва паважанага ў нас у краіне роду мемарыялаў — помнікаў гераізму і ахвярам савецкага народа ў імя міру і жыцця на зямлі.

Сучасны мемарыяльны комплекс часцей за ўсё з'яўляецца адлюстраваннем канцэпцыі сінтэзу, калі «драматургія» ідэйнай задумы даносіцца да гледача сродкамі манументальнай пластыкі, архітэктуры і іншых



Мемарыял у гонар горада-героя Мінска. Злева — фрагмент: скульптурная кампазіцыя, якая ўвасабляе вобраз маці-Радзімы.

відаў мастацтва, злучаных у адзінае цэлае «рэжысурай» аўтарскай задумы. Аб Мінскім мемарыяле можна гаварыць як аб прыкметнай з'яве на шляху да такога сінтэзу. Творчы пошук аўтарскага калектыву, вылучанага Мінскім выканкомам гарадскога Савета народных дэпутатаў і прэзідыумам праўлення Саюза архітэктараў БССР на атрыманне Дзяржаўнай прэміі БССР, выліўся ў арыгінальнае і памятнае пластычнае і горадабудаўнічае вырашэнне.

Да пачатку праектавання манумента «Мінск — горад-герой» у рэспубліцы былі такія значныя творы манументальнай пластыкі, як манумент Перамогі (1954 г.), «Курган Славы» (1969 г.), «Хатынь» (1969—1970 гг.), помнік «Савецкай маці-патрыётцы» (1974 г.). Належала ўзяць усё лепшае з гэтага вопыту, захаваўшы самабытныя рысы, якія характарызуюць беларускае манументальнае мастацтва апошніх гадоў.

У 1983 годзе, калі Мінскім гарвыканкомам і Міністэрствам культуры рэспублікі быў аб'яўлены адкрыты конкурс на стварэнне праекта абеліска гораду-герою Мінску, мала хто сумняваўся ў правільнасці выбару месца для будучага мемарыяла — на бульвары Талбухіна, у цэнтры горада, дзе знаходзіцца брацкая магіла савецкіх воінаў, партызан і мірных жыхароў. Аднак вынікі конкурсу і наступны старанны аналіз горадабудаўнічай сітуацыі, праведзены аўтарамі праекта, адзначанага першай прэміяй, паказалі, што побач са станоўчымі момантамі гэтае месца мае шэраг недахопаў для збудавання буйнога манумента — «заціснутасць» паміж існуючай забудовай, абмежаванасць зоны ўспрымання і г. д.

Далейшая работа над помнікам была звязана з пошукам новага месца, у сувязі з чым распрацоўка праектнага задання была перададзена архітэктурнаму інстытуту «Мінскпраект». Вопыт збудавання значных помнікаў падказаў неабходнасць правядзення яшчэ аднаго туру конкурсу з мэтай удакладнення месца для будучага манумента. На гэты раз — на праспекце Машэрава.

Да ўдзелу ў закрытым конкурсе былі запрошаны творчыя групы Саюза архітэктараў БССР, Саюза мастакоў БССР, праектных інстытутаў «Белдзяржпраект» і «Мінскпраект».

З шасці прадстаўленых на конкурс праектаў найбольшую ўвагу прыцягнула работа «Мінскпраекта» (скульптар і архітэктар В. Занковіч, архітэктары В. Крамарэнка, В. Яўсееў, В. Раманенка). Гэты праект вызначала завершанасць прасторавых узаемасувязей, навізна пластычнага вырашэння, і ён быў рэкамендаваны да рэалізацыі.

Мемарыял створаны ў вельмі сціслыя тэрміны, і цяпер мы маем магчымасць ацэньваць яго вартасці не ў макеце або праектнай графіцы, а «ў натуры», характарызаваць як чарговы крок у станаўленні новых выяўленчых прынцыпаў і, што найбольш каштоўна, — у вырашэнні горадабудаўнічых задач. Помнік немагчыма разглядаць ізалявана, па-за комплекснай аб'ёмна-планіровачнай структурай праспекта Машэрава.

Манумент вянчае натуральны ўзгорак паміж магістраллю і паркавым масівам. Ён добра прачытваецца з пунктаў, якія адкрываюць за дынамічным паваротам праспекта жывапісную панараму новай забудовы. Адсутнічае прывычная фасадная аббудова вуліцы, якая адносна нядаўна ўспрымалася ў нас як непазбежнасць. Сілуэт абеліска з накладнымі элементамі — залатой зоркай і лаўровай галінкай — дамінуе ў адкрытай прасторы. Сімвалічная форма абеліска — стылізаваны сцяг Перамогі.

Яшчэ не цалкам закончана арганізацыя асяроддзя вакол абеліска, павінны з'явіцца малыя архітэктурныя формы, элементы добраўпарадкавання. У «Мінскпраекце» распрацоўваецца праект рэканструкцыі парку Перамогі. Але ўжо зараз можна сцвярджаць, што ў Мінску актыўна развіваецца новы тып архітэктуры, якую прынята называць ландшафтнай.

Новы жыллёвы комплекс горада атрымаў свой ідэйна-мастацкі цэнтр; на помнік арыентуецца далейшая работа па добраўпарадкаванні навакольнага асяроддзя і рэканструкцыі парку Перамогі. Сэнсавы змест абеліска-сцяга надае асяроддзю дакументальнасць, далучанасць акружэння да ідэі манумента.

У праекце першапачаткова быў закладзены эфект дынамікі ўспрымання ад панарамнага — да дэталёвага. Па меры набліжэння да помніка больш выразна вырысоўваюцца імклівыя вертыкалі абеліска, галоўнай тэмы мемарыяла, канкрэтны змест набывае сімволіка скульптуры «Маці-Радзіма». Падножжа ўзгорка спланавана як плошча для правядзення ўрачыстых рытуалаў і мітынгаў. Верхняя пляцоўка служыць месцам непасрэднай сувязі з мемарыялам, агляду з блізкіх кропак пластычных элементаў помніка. У падножжы абеліска размешчаны тэкст Указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР аб прысваенні Мінску ганаровага звання «Горад-герой», напісаны золатам па светлым фоне. Пластычная мадэліроўка бронзавай фігуры кантрастуе з лаканічнай пластыкай абеліска і кампазіцыйна завяршае цэнтральную частку мемарыяльнага комплексу, скульптура сумаштабная абеліску. Аўтарам удалося пазбегнуць перабольшанасці памераў. Левая рука ўскінулася ўвышыню ў пераможным акордзе, фанфары прадаўжаюць дынамічны жэст рукі. Правая рука, звернутая ў бок абеліска і адкрытай панарамы архітэктурнай забудовы, як бы запрашае ўгледзецца ў вынікі стваральнай працы савецкіх людзей. Усе элементы мемарыяла ўспрымаюцца цэласна, усё «працуе» на выразнасць тэмы.

Трэба адзначыць высокі ўзровень інжынернага забеспячэння і якасць будаўнічых работ, што дазволіла з поўнай падставай уключыць у аўтарскі калектыў інжынераў Г. Басінкевіча, В. Грыбанава, брыгадзіра будтрэста № 1 «Мінскбуда» М. Фінскага.

**Леанід ДЗЯГІЛЕЎ.**
**Фота аўтара.**

**ВІНШУЕМ**

## Вячаславу ЧАМЯРЫЦКАМУ—50



22 ліпеня споўнілася 50 год крытыку Вячаславу Чамярыцкаму. У віншаванні праўлення СП БССР гаворыцца:

**«Дарагі Вячаслаў Антонавіч!**

**Горача віншуем Вас, крытыка і літаратуразнаўцу, з 50-годдзем з дня нараджэння.**

**Свой творчы шлях Вы пачалі з вершаў. Але нястрымнае жаданне ісці далей падштурхнула Вас паспрабаваць свае сілы ў літаратуразнаўстве і прывяло ў аспірантуру Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР, дзе Вы паспяхова абаранілі дысертацыю на званне кандыдата філалагічных навук. Сэнс сваёй літаратурна-навуковай дзейнасці Вы бачыце ў тым, каб як мага глыбей раскрыць неацэнныя багацці нашай старажытнай літаратуры, наблізіць і паставіць на службу сучаснасці найлепшыя здабыткі культурнай спадчыны беларускага народа, уключыць іх у духоўны актыў савецкага чалавека. У кнізе «Беларускія летапісы як помнікі літаратуры» Вы паглыбілі ранейшыя ўяўленні пра наша летапісанне, а затым падрыхтавалі іх да друку ў «Поўным зборы рускіх летапісаў». Па заказу ЮНЕСКА Вы напісалі ў сааўтарстве навукова-папулярную кнігу пра Францыска Скарыну, якая выйшла ў Парыжы на англійскай і французскай мовах. Вы з'яўляецеся адным з аўтараў «Гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры» і «Истории белорусской дооктябрьской литературы», напісалі шэраг раздзелаў для «Истории всемирной литературы» і падручніка па беларускай літаратуры для педінстытутаў. Вы прымалі ўдзел у шэрагу міжнародных і ўсесаюзных навуковых форумаў.**

**Жадаем Вам, дарагі Вячаслаў Антонавіч, добрага здароўя, шчасця, новых поспехаў у літаратурна-навуковай дзейнасці».**

Штотыднёвік далучаецца да віншавання.

**НА ЖЫЦЦЁВЫХ СКРЫЖАВАННЯХ**

## НА ПАЧАТКУ СЛАВЫ

**Мікола ДЗЕЛЯНКОЎСКІ**

# Водбліскі імгненняў

У прасторны рэдакцыйны пакой, у якім стаялі ў розных, насупраць, кутках два канцылярскія сталы — загадчыка аддзела пісьмаў і мой, адказнага сакратара, зайшоў, як мне, сядзячаму, падалося, высокі малады мужчына. Цёмнае доўгае паліто яго было расшпілена. Хоць стаяла позняя восень, ён быў без шапкі.

Мужчына павітаўся, сказаў:

— Я з «Гродзенскай праўды», Быкаў. А дзе Мікола Васілеўскі?

— Недзе бегае, — адказаў я. — Павінен быць пасля абеду.

Быкаў паглядзеў на гадзіннік, зірнуў у акно. Унізе стаялі машыны «хуткай дапамогі» — побач з рэдакцыяй была яе станцыя, далей — будынак суда, а яшчэ далей — магазіны, розныя ўстановы.

— Скажыце, калі ласка, Міколу, што я зайду.

Ён пайшоў па сваіх журналісцкіх справах, якія прывялі яго да нас, у Ліду.

А мне прыгадаўся расказ Міколы Васілеўскага — загадчыка аддзела пісьмаў.

Летам мінулага, 1959 года, ён быў на вайсковых зборах. Там пазнаёміўся з супрацоўнікам абласной газеты Васілём Быкавым. Жыў з ім у адной казарме. Іх ложкі аказаліся побач. А тумбачка дасталася адна на двух. Васіль Уладзіміравіч і на зборах выкройваў час пісаць. Сядаў на ложак, клаў на калені вялікі блакнот і — доўга не разгінаўся. Аднойчы Мікола спытаў, што той піша.

— Другі варыянт «Трэцяй ракеты».

— Але ж перад табой няма першага варыянта.

— А ён у мяне ў галаве...

Яны пра многае гаварылі. Не заўсёды пагаджаліся адзін з адным, часам спрачаліся.

Мікола быў у захапленні ад Быкава. Гаварыў, нібы пераконваў мяне:

— Выдатны чалавек. Разумны. Жыцця пабачыў, ведае яго. Галоўнае — мае сваю думку, свой погляд. І не баіцца выказваць іх. Паглядзіш, ён далёка пойдзе. Друкаваўся пакуль не шмат. Але кніжку здаў у выдавецтва. Свой у Васіля стыль, сваё бачанне чалавека.

Наступнай вясной Мікола быў у Гродне на нарадзе рабселькораў абласной газеты. Сустракаўся з Быкавым. Фатаграфаваў яго. Васіль Уладзіміравіч падарыў яму кнігу «Жураўліны крык» з надпісам: «*Журналісту і аднапалчаніну...*» І да сёння, хто ўбачыць той дарункавы надпіс, ускідвае на Міколу вочы: няўжо ён быў з Быкавым на фронце?

Тая сустрэча з Васілём Быкавым у лідскай рэдакцыі — нечаканая, кароткая — засталася ў памяці. Запомнілася яго хударлявасць, жывы твар, добрыя, уважлівыя вочы.

Назаўтра Мікола расказаў мне пра сустрэчу са сваім калегам па зборах. Яны пагутарылі ў рэдакцыі, пасля паабедалі разам. Васіль Уладзіміравіч спытаўся, ці ёсць у горадзе людзі, якія змагаліся супраць фашызму за мяжой, у атрадах Супраціўлення. Я, памятаю, здзівіўся. І толькі калі паявілася «Альпійская балада», зразумеў, чаму Васіля Быкава цікавілі людзі, якія ваявалі на Захадзе...

Неўзабаве пасля таго я паслаў у «Гродзенскую праўду» апавяданне «Пустацвет». Я не ведаў, што літкансультантам у ёй стаў Васіль Быкаў. Праз нейкі час апавяданне надрукавалі.

З таго часу мінула чвэрць стагоддзя. Шмат сплыло ў

(Заканчэнне на стар. 14—15).

# Салдат пярэдняга краю

**ДА 75-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ АНАТОЛЯ АСТРЭЙКІ**



Сваей апошняй кніжкі «Ураджай цяпла» ён не дачакаўся. Была загадзя вычытана карэктура, пісаліся і новыя вершы, але стомленае сэрца ўжо спынялася. Таму «Ураджаю цяпла» наканавана было стаць адначасова лебядзінай песняй паэта-партызана Анатоля Астрэйкі. Прадчуванне незваротнага напаўняе многія творы зборніка. Ды толькі не песімізм гучыць у паэтавых вершах, а зразумелае жаданне падвесці рысу над здзейсненым, паспрабаваць вызначыць, не чакаючы, калі гэта зробяць іншыя, — што і як зрабіў.

Пачуццё самакрытычнасці не пакідала А. Астрэйку. Салдат пярэдняга краю, ён не прагнуў нейкай асаблівай удзячнасці і ўзнагарод. Хацеў аднаго — каб напісанае дайшло да чытацкага сэрца.

**Палкаводзец слоў з мяне не выйшаў,**
**Радавога верша я салдат.**

Не кожны асмеліцца так сказаць пра сябе. І не толькі таму, што не хопіць гэтай самай самакрытычнасці. Павінна быць яшчэ і права на падобнае сцвярджэнне. Яно ж, як вядома, заваёўваецца не гучнымі запэўніваннямі і дэкларацыямі. Ды і прыходзіць не адразу.

Творчая біяграфія А. Астрэйкі ў гэтым сэнсе не выключэнне. Пачынаў ён, як большасць яго аднагодкаў, з твораў, у якіх услаўляў радасць жыцця (першы зборнік, які выйшаў у 1940 годзе, дарэчы, так і называўся — «Слава жыццю»), апяваў шчырасць пачуццяў, непаўторнасць спатканняў.

Паэт працуе ў рэдакцыях газет у Полацку, Оршы, Горках, Мінску. Часта выязджае ў камандзіроўкі, сустракаецца з працаўнікамі горада і вёскі, піша вершы, паэтычныя рэпартажы, нарысы. Зразумела, не абыходзілася і без твораў-адназдзёнак, якія з'яўляліся як водгук на канкрэтныя падзеі, аднак менавіта ў гэты час у яго паэзіі хораша загучалі лірычныя матывы. Схільнасць да песеннага пачатку ўсё ўладней дае аб сабе знаць.

Асаблівa плённа паэтычны талент А. Астрэйкі раскрыўся ў гады Вялікай Айчыннай вайны. З-пад яго пяра з'явіліся радкі, якія сёння вядомы далёка за межамі Беларусі. Паэт нават думаць не мог, што асабісты боль яго, трывога, што берагі роднага Нёмана топчуць чужынцы, выльецца ў народную песню:

**О Нёман, о бацька мой, Нёман,**
**Як сонца, як дзень дарагі!**
**Касцямі звяругаў шалёных**
**Усланы твае берагі.**

Дарогі вайны вядуць А. Астрэйку далей. Гомель, Канатоп, Бахмач, Курск, Арол, Мцэнск... Ён працуе адказным сакратаром газеты-плаката «Раздавім фашысцкую гадзіну». Нарэшце рэдакцыя асталявалася ў Маскве. Ды кабінетная ціша была не па нутру паэту. Калі ўзнікла пытанне, што нехта з супрацоўнікаў павінен наладзіць сувязь з партызанамі, ён, не задумваючыся, згадзіўся. Спачатку дабраўся праз лінію фронту да мінаеўцаў, потым самалётам быў перакінуты да народных мсціўцаў Міншчыны, крыху пазней пабываў у партызанаў Пінскай і Гомельскай абласцей.

Пісаў агіткі, частушкі, заклікі. У гэты суровы час патрэбна была паэзія, якая адпавядала задачам дня, несла практычную службу, згуртоўваючы людзей на барацьбу, усяляючы ў іх сэрцы яшчэ большую нянавісць да ворага. Вершы паэта, якія нараджаліся ў зямлянках, увайшлі ў зборнік «Слуцкі пояс».

Выданне гэтай кнігі — з'ява унікальная. Зборнік у 1943 годзе падрыхтавала слуцкая падпольная газета «Народны мсціўец». Ідэю выпуску кнігі ўхваліў сакратар Слуцкага падпольнага райкома партыі Іпа-

# ВОДБЛІСКІ ІМГНЕННЯЎ

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 13).

жыцці. Неяк мне спатрэбілася пазваніць пісьменніку. І не чакаў, назваўшы сябе, пачуць:

— А, ведаю, ведаю.

Васіль Уладзіміравіч чула паставіўся да маёй просьбы, дапамог, чым мог...

Васіль Быкаў стаў гонарам і славай беларускай літаратуры. Быкава чытае ледзь не ўвесь свет. Мне ж успамінаецца тая далёкая сустрэча. Успамінаецца сціплы чалавек, які прыязджаў у Ліду аўтобусам, шукаў людзей, якія *пад*казалі б яму для «Альпійскай балады» нейкія дадатковыя штрыхі...

## ЗАПАЛЯНКА

Вершы Дануты Бічэль зрэдку друкаваліся ў «Гродзенскай праўдзе», перадаваліся па абласным радыё. Мне давялося бачыць яе, студэнтку Навагрудскага педвучылішча, на пасяджэнні літаб'яднання абласной газеты. Сімпатычная студэнтка. Гарэзлівая. Усмешлівая.

А зусім нядаўна заглянула да нас у рэдакцыю.

— Я тут праездам, — расказвала, чырванеючы. — Пасля педвучылішча паступіла ў Гродзенскі педінстытут, ужо скончыла два курсы, а цяпер, да пачатку заняткаў, на пару дзён да бацькоў у Біскупцы загляну.

— Якія Біскупцы? — удакладніў я.

— Ды лідскія, што каля Дакудава.

— То вы лідчанка?

— Можна і так лічыць. Але дакладней — біскупчанка.

Данута спытала, ці прынялі б мы яе вершы.

— Хоць цяпер, — сказаў я.

— Не, я дома іх падбяру, а буду ехаць у Гродна — прывязу.

Расказала, што вершаў у яе шмат, але нямала такіх, якія ёй не падабаюцца.

Пагаварылі яшчэ пра тое-сёе.

Яна пайшла. Лёгкае, прыгожае дзяўчо, акрыленае маладосцю, вучобай у інстытуце, адухоўленае паэзіяй...

А праз нейкі час разам з супрацоўнікам рэдакцыі Віктарам Кучынскім, пабыўшы ў калгаснай канторы ў Дакудаве, мы заехалі ў Біскупцы. Нам паказалі хату Івана Бічэля. Да яе, хутарской, ехалі мурожнай дарожкай, на якой роўна ляжалі дзве каляіны. *Пахла,* нават праз акно, сакавітым мурагом.

Было гадзіны чатыры. Жнівеньскі дзень буяў. Сонца пякло. А ў паветры, у сіняве неба адчуваўся першы восеньскі сум.

*Калі пад'ехалі да двара, з-за* пабудоў выбегла Данута. У лёгкай сукенцы. Босая. Засаромелася:

— А я тут бацькам памагаю.

Змоўкла, не ведаючы, што сказаць. Бацькі выручылі:

— Запрашай, Дана, гасцей у хату.

— Ой, праўда, — спахапілася дзяўчына, — заходзьце.

— Другім разам, — адмовіўся Віктар. — Не будзем перашкаджаць вам. — І да Дануты: — Мы па вершы заехалі, якія абяцалі.

— Я зараз.

Данута подбегам кінулася да хаты. А Віктар разважыў:

— Вось так растуць паэты. У градах, у баразне.

Вярнулася Данута са сшыткам. Падала яго:

— Глядзіце, можа, што выбераце.

Яны — Данута, яе маці і бацька — доўга, па сялянскай звычцы, *глядзелі нам услед.*

Вершы мы надрукавалі. Сярод іх былі «Хвалько», «Пеця і дзеці», «Яму даверылі».

Пасля з Данутай Бічэль-Загнетавай я сустракаўся неаднойчы, аднак, напэўна, сапраўды ёсць нешта, што для цябе раз і назаўсёды асвятляе іншага чалавека.

Хата Дануты ў Біскупцах. Поле. Лес, за ім Нёман. Чыстае неба. Звонкае паветра... Усё да дробязей урэзалася ў памяць. І калі я чытаў зборнік вершаў «Запалянкі», убачыў усё гэта яшчэ раз вельмі выразна.

Так і засталася для мяне Данута Іванаўна той наднёманскай Запалянкай.

І яшчэ адзін зборнік яе абудзіў той успамін — «Дзе ходзяць басаножы». Тады яна, босая, хадзіла каля сваёй хаты. Тады, маладая, убіраючы босымі нагамі радасць зямлі, засаромелася. А праз гады стварыла цудоўную кнігу, поўную красы роднай зямлі, удастоеную Дзяржаўнай прэміі БССР.

Наднёманскі край нарадзіў Дануту. Данута апела яго.

## УЛЮБЁНЫ Ў ПУШЧУ

Віктар Карамазаў заўсёды свеціцца нейкай унутранай радасцю. *Сустрэнешся з ім, пагаворыш* крыху — і адчуваеш, як і табе перадаецца яго бадзёры настрой, яго жыццярадаснасць.

Я не раз думаў: адкуль яна? І аднойчы злавіў сябе на думцы: радасць сваю — шырокую і светлую — Віктар бярэ ў прыроды. Сапраўды, пра што яго гутаркі найчасцей? Пра сваю Магілёўшчыну, пра Ліменьскую пушчу.

Улавіўшы якую паўзу ў гаворцы, Віктар пераводзіць на сваё:

— А ці быў хто з вас у маёй Лімені?

Ён, высакаваты, сівы, але маладжавы, молада глядзіць на субяседнікаў праз акуляры. А сам — аж свеціцца ад успаміну. Ляпае далоняй па спінцы крэсла:

— Эх, хлопцы! Якая там прыгажосць!

І зноў глядзіць на нас, нібы з жалем: як вы шмат страцілі, што не былі ў маёй Лімені. Выпрастае спіну, уздыхне:

— Якія там лясы!

І — пайшоў расказваць. Заслухаешся. Паэт, а не празаік. А можа — паэт у прозе?

Не буду згадваць тут яго цудоўныя расказы пра лясы. Усё роўна лепш за яго не скажаш. Ён напісаў раман «Пушча». Твор жывы не толькі клапатлівымі людзьмі, якія дбаюць пра лес, але і самім лесам, самой пушчай. Яна ў рамане, я сказаў бы, галоўны герой.

Разам з Віктарам і я ўлюбіўся ў яго пушчу. І як працяг гэтай нашай улюбёнасці — яго вусныя расказы пра лес. Ён шмат ведае пра жыццё лесу, яго жыхароў — дзікоў, ласёў, казуль... І расказвае пра іх з цеплынёй, з цікавейшымі назіраннямі.

А колькі ў яго «пісьменніцкім загашніку» забаўных паляўнічых гісторый!

Самога ж Віктара, хаця ведаю яго са студэнцкіх гадоў, бачыў разгубленым толькі аднойчы. Каля нашай рэдакцыі яго «прыціснуў» да тратуара грузавік. Віктарава «Ніва» парадкам пацярпела.

Я падышоў, калі міліцыя ўжо ва ўсім разабралася. Віктар убачыў мяне, усміхнуўся, павітаўся, толькі ўсмешка была сумнаватая. Сказаў:

— Ох, як не пашанцавала!

— Шкада машыну, — *пад*трымаў я.

— Ды ліха з ёй, з машынай! Мы ж дамовіліся ехаць заўтра раніцай у маю Лімень. Там нас людзі чакаюць.

## НА СКРЫЖАВАННІ

Ёсць у жыцці імгненні, якія ўражваюць, хоць і незразумела чым...

Быў я ў Скідалі, ужо ў час вучобы ва універсітэце, на канікулах. Ішоў аднекуль дахаты. Стаяў ясны поўдзень. На скрыжаванні дарог Ліда — Гродна і Лунна — Азёры было амаль бязлюдна. Толькі каля чайнай нешта даводзілі адзін аднаму тымчасавыя «чарнільшчыкі».

Я збочыў на *шашу,* тады яшчэ гравійную, абсаджаную тоўстымі вербамі. І ўбачыў чалавека, які сядзеў на абочыне, на самым краі яе. Ногі ён выцягнуў, паклаў адна на адну. Пінжак, такі ж шэры, як і штаны, ляжаў злева ад падарожніка, *а справа стаяў парт*фель. Побач на газеце — хлеб, памідоры, нарэзанае сала.

Я зірнуў на чалавека і пазнаў у ім Аляксея Карпюка. Адразу ж успомніўся вечар у Гродзенскім педінстытуце, дзе вучылася тады мая будучая жонка, і на якім я ўпершыню ўбачыў пісьменніка. У той час было шмат гаворак пра яго першую аповесць «У адным інстытуце». Шмат, вядома, гаварылі і пра яе аўтара. Міхась Васілёк, Пятрусь Макаль адклікаліся пра яго цёпла.

І вось тады, на тым скрыжаванні дарог, мяне штосьці нібы штурхнула да Карпюка, хацелася падысці, проста павітацца, ды — сумеўся: усё ж мы не знаёмыя.

І я пайшоў сцежкай ускрай шашы, пад кронамі старых вербаў. А Карпюк, калі я азірнуўся, палуднаваў — спакваля, *па-сялянску еў хлеб з салам,* акуратна беручы скрылікі на лязо складанчыка.

Не ведаю, куды ён ішоў. Здаецца, тады працаваў ён ужо ў «Гродзенскай праўдзе» — пераехаў з Ваўкавыска.

Шмат гадоў пасля таго я сачыў і сачу за Карпюковай творчасцю. Чытаў усё ім напісанае. Мяне радавала, што на маёй радзіме склалася моцнае літаратурнае аб'яднанне, якое перарасло ў абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў БССР. Міхась Васілёк, Васіль Быкаў, *Аляксей Карпюк,* Пятрусь Макаль, Данута Бічэль-Загнетава, Вольга Іпатава і іншыя працавалі плённа, дасягнулі высокіх вышынь, сталі вядомымі ў літаратуры.

З іх Карпюку (як, дарэчы, і Быкаву) выпалі нялёгкія выпрабаванні. Усё траплялася на іх шляху — і непрызнанне, і крытыка, і прэтэнзіі зласліўцаў.

Другі раз бачыў я Аляксея Карпюка на ўрачыстым вечары Васіля Быкава, якому споўнілася шэсцьдзесят гадоў, было прысвоена званне Героя Сацыялістычнай Працы. Урачыстасць праходзіла ў будынку тэатра імя Янкі Купалы. Тэатр быў перапоўнены. Вечар — цудоўнейшы! Настаў час усенароднага прызнання!

Мне выпала сядзець з Карпюком у адным радзе. Ён быў знешне такі ж спакойны, як і калісь. Твар толькі змяніўся: стаў стомленым, вытанчаным. І ў чупрыну закралася сівізна.

Месяцы праз тры пасля таго быкаўскага вечара я, працуючы над кніжкай пра Скідаль, звярнуўся да Аляксея Нічыпаравіча, папрасіў сказаць, што значыць у яго жыцці і творчасці Скідальшчына. Ён адказаў шчырым пісьмом.

літ Кананові, які напісаў да яе прадмову. Паперу дасталі ў нямецкай друкарні. Як успамінае колішні рэдактар газеты М. Дастанка, «для друкавання вокладкі кніжкі партызаны раздабылі чырвонай фарбы, а для пераплёту знайшлі нержавеючага меднага дроту». Партызанскія мастакі Саша Залаты і Саша Бяляеў не толькі аформілі вокладку, але і зрабілі для вершаў літары-застаўкі. Кніжка выйшла тыражом у тысячу экземпляраў — вельмі вялікім для ваеннага часу. У атрады яна паступала па меры друкавання, бо выпуск расцягнуўся на цэлы месяц.

У 1974 годзе «Слуцкі пояс» быў перавыдадзены ў выдавецтве «Беларусь».

Уласна перажытае надало вершам А. Астрэйкі праўдзівасць і пераканаўчасць. Саму праўду вайны паказваў паэт. Расказваў, як салдат салдатам, не шукаючы нейкіх надзвычайных слоў. Проста ў гэтых творах усё надзіва ўражліва. Як, напрыклад, у вершы «Наперад» — адным з самых значных у «Слуцкім поясе»:

**Ты знаеш, што такое дождж,**
**Ды праліўны, на сутак пяць,**
**Калі ў руках ржавее нож,**
**Калі ні сесці і ні ўстаць,**
**Калі, як змеі, раўчукі**
**Сцякаюць па спіне к зямлі,**
**Калі не сцягнеш аплікі**
**У набрынялым шынялі.**

Ці ў вершы «Беларусь-партызанка»: «Мы асфальтам балота завём і шасэйнай дарогай сцяжынку. Два гады мы і косім і жнём, каб вялікія справіць дажынкі. Аўтаматы нам служаць касой, а сярпамі — гранаты, наганы. Не расою — варожай крывёй акрапляюць зямлю партызаны. Там, дзе нас не чакаюць, — мы там, а дзе ладзяць засаду — абыдзем. Тут усё паслухмянае нам, нават месяц то ўстане, то зыдзе».

У пасляваенны час выходзяць кнігі А. Астрэйкі «Крамлёўскія зоры», «Добры дзень», «Зямля мая», «Песня дружбы», «Бацька Нёман», «Сэрца насцеж», «Цвіціце, верасы», з'яўляюцца творы для дзяцей. Выступае А. Астрэйка і ў галіне перакладу. Аднак — будзем шчырымі — паэзія яго, наступальная, баявая, у лепшым сэнсе слова ваяўнічая, не адразу прыстасоўваецца да мірных абставін. А. Астрэйка, як і многія іншыя аўтары, хто плённа і шмат пісаў у гады вайны, не адразу знайшоў патрэбныя словы, каб гэтаксама ўражліва, пераканаўча, па-свойму самабытна сказаць пра пасляваенную рэчаіснасць. Зашмат было ў творах рытарычнасці і дэкларацыйнасці.

Побач нараджаліся пранікнёныя і шчырыя радкі, у якіх адчуваўся неспакой і няўрымслівасць, пяшчотна выказваліся светлыя імкненні і парыванні. Менавіта гэтыя творы, у якіх такі моцны лірычны струмень, па-сапраўднаму радавалі і хвалявалі. Вяртанне да зямных вытокаў, да спрадвечнага, што адначасова з'яўляецца і вечным, надавала паэзіі А. Астрэйкі бадзёрасць, той унутраны аптымізм, калі чалавеку верыцца ў самае харошае. З гэтай веры нараджалася і кніга «Ураджай цяпла». Нараджалася як запавет:

**Крыніц не трэба каламуціць,**
**Кранацца сэрца чысціні.**
**Наіўная паэзія пачуццяў**
**Жыве ў асенняй цішыні.**

Лепшае з напісанага паэтам па-ранейшаму ў актыўным літаратурным ужытку. Нязменнай папулярнасцю карыстаюцца яго песні — «Ой бацька мой, Нёман», «Шаўковыя травы», «Песня пра Заслонава» і шмат якія іншыя. «Радавога верша... салдат», Анатоль Астрэйка і сёння бачыцца нам салдатам пярэдняга краю жыцця.

Алесь **МАРЦІНОВІЧ.**

---

І, зважаючы на тое, што я працую ў часопісе «Родная прырода», пісаў у лісце: «Я наогул сімпатык роднай прыроды». Я ў тым не сумняваўся, бо адчуваў гэтую сімпатыю ў творах пісьменніка.

## У ВЕЧНЫМ ПОШУКУ

І не толькі ў вечным, але і ў нястомным. І не толькі цяпер, але і ва ўсе гады. Колькі я ведаю Адама Мальдзіса, ён шукае і знаходзіць. Знаходзіць і зноў шукае.

Узорам чалавека пошуку ён стаў у студэнцкія гады. Усе мы, студэнты сумежных курсаў, дзівіліся з яго працавітасці. Ацэнку ж давалі розную.

— Ну і малайчына! Так і трэба ісці ў навуку.

— Сапраўды творчы чалавек.

— А каму гэта трэба? Згарыць, не пажыўшы.

Песімістычныя ноткі ўзмацніліся, калі Адам, запрацаваўшыся, страціў прытомнасць у чытальнай зале.

У студэнцкай сям'і пра Адама Мальдзіса ўжо гаварылі як пра даследчыка. Ён любіў корпацца ў архівах, адшукваць розныя рэдкія і цікавыя звесткі, дакументы, кнігі...

Дарога пошукаў паступова пашыралася. Пасля універсітэта Адам Іосіфавіч даследаваў архівы і бібліятэкі Мінска, Вільнюса, Ленінграда, Польшчы, Англіі і шмат якія іншыя. Ён праехаў па мясцінах многіх выдатных людзей, пабываў там, дзе адбываліся важныя гістарычныя, літаратурныя падзеі. І сёння, калі даследчык аддаў свайму захапленню добрых трыццаць гадоў жыцця, можна гаварыць пра выдатны плён яго так патрэбнай працы. Дзякуючы Адаму Мальдзісу адноўлены шматлікія старонкі руска-беларускіх, беларуска-літоўскіх, беларуска-польскіх грамадска-літаратурных і палітычных сувязей і ўзаемаадносін. Каліноўскі, Сыракомля, Дунін-Марцінкевіч, Агінскі, Ігнат Дамейка, Ева Фялінская... Не злічыць імён тых, каго вярнуў нам з мінулага, часам дасканала забытага. А колькі цікавых звестак знайшоў і пра вядомых людзей, і пра падзеі. Ды і трактоўкі, абапіраючыся на першакрыніцы, даў больш дакладныя і аб'ектыўныя.

Мне шмат разоў выпадала сустракацца з Адамам Іосіфавічам. Пасля кожнай сустрэчы застаецца ўражанне, што ты нейкім чынам датыкнуўся да гісторыі — пісьменнік, публіцыст, вучоны, здаецца мне, перапоўнены ёю.

Ну, а хто не ведае шчодрасці Адама Іосіфавіча? Ён не з тых, хто, пра нешта ўведаўшы, знайшоў у архіве, стараецца заціснуць яго, не даць іншым. Пазвоніш яму, а ён адразу адгукаецца:

— Пачакай, пачакай... Дзе тут мая картатэка? Ага, вось ён — Гродзенскі раён. Запісвай, калі ласка.

І Мальдзіс называе добры дзесятак маіх землякоў, якія нечым праславіліся ў мінулым. І дадае — дзе пра каго пачытаць, да каго звярнуцца па тлумачэнні.

Творчы вопыт Адама Мальдзіса адкрыў мне нямала ісцін альбо пераканаў у іх правільнасці. Чытаючы яго, я згадаў французскую прымаўку: хто не паважае мёртвых, той не любіць жывых. Мальдзіс сваёй творчасцю паказаў лішні раз, што гэта так. Ён сваімі даследаваннямі пераконвае любіць даўніну, а значыць — і сённяшняе.

Ды і ва ўсёй яго дзейнасці гэта выразна акрэслілася. Я ўпэўнены, што без «Падарожжа ў XIX стагоддзе» не было б кнігі «Астравеччына, край дарагі». А без яе, магчыма, не паявілася б такой яркай, як «Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры».

Адам Іосіфавіч працягвае сваю лінію. У час адной з нашых сустрэч ён сказаў:

— Аналізую мемуарную літаратуру дзевятнаццатага стагоддзя. Гэты перыяд намнога багацейшы, чым васемнаццаты. Працую з задавальненнем.

Я параіў:

— Сабраў бы ты ўрыўкі з найбольш цікавых твораў мемуарыстаў мінулага ды выдаў бы іх кнігай накшталт хрэстаматыі.

— Гэта не пашкодзіла б.

Я падумаў, што ён выдасць такую кнігу.

## ЦЁТКА ЎЛАДЗЯ

Далёкі 1953 год. Ён багаты на важныя змены ў жыцці краіны. Памятны ж ён для мяне не толькі гэтым. Памятны рэспубліканскай нарадай маладых пісьменнікаў. На ёй я ўпершыню сустрэўся з многімі.

Нарада праходзіла летам у доме Саюза пісьменнікаў на вуліцы Энгельса. Пасяджэнні праводзіліся ў невялікай зале, якая глядзела вокнамі ў дворык.

Запомніў я Мікалая Рыленкава — вядомага рускага пісьменніка. Запомніўся яго пільны погляд добрых вачэй з-пад крыху груваcткіх акуляраў. Дабрыня яго прысутнічала нават у крытыцы вершаў Навума Кісліка, з якой ён выступіў, гаворачы пра вершы маладых беларускіх паэтаў, якія пісалі па-руску.

Запомніўся байкапісец Уладзімір Корбан: поўны, груваcткі, ён нешта занатоўваў у блакноце, і пры гэтым з губ ягоных не сыходзіла дрыготкая ўсмешка.

Запомніўся сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, кіраўнік нарады Міхась Клімковіч. Паводзіў ён сябе добразычліва. Да ўсіх ставіўся ветліва.

Запомніліся і некаторыя маладыя літаратары. Асабліва — Браніслаў Спрынчан. Ён, здаецца, быў тады рабочым, працаваў на «Гомсельмашы». Вылучаўся Спрынчан белай вышыванай кашуляй. Такую носіць ён і сёння.

Але найбольш запомнілася жонка Янкі Купалы — Уладзіслава Францаўна. Яна расказвала нам пра народнага паэта так проста, так хораша. Экспрэсіўная, праўдзівая, Уладзіслава Францаўна не гаварыла пра Янку Купалу высокімі словамі. Яна крыху хрыплым голасам расказвала нам пра Купалу як пра чалавека, якому былі ўласцівы ўсе чалавечыя якасці.

Пасля ў двары ўдзельнікі нарады акружылі цётку Уладзю, засыпалі яе пытаннямі. Яна, пажылая, поўная, каратка падстрыжаная, усё расказвала і расказвала. А мы лавілі кожнае яе слова пра дзядзьку Янку.

Для нас Уладзіслава Францаўна была легендай. Яна была працягам Янкі Купалы ў нашы дні. Яна ведала яго думы і мары, ведала яго стаўленне да літаратуры і да маладых літаратараў. І нібы ён яе вуснамі гаварыў маладому пакаленню:

— Хлопчыкі, будзьце праўдзівымі. Кажыце толькі праўду. У паэзіі праўда — галоўнае.

І добрыя вочы Уладзіславы Францаўны заглядвалі нам у душы. Нібы хацелі пераканацца, ці пойдуць маладыя шляхам мудрага Янкі Купалы.

---

## ПЕРАКЛАДЫ

**У творчай спадчыне Міколы Гусоўскага, паэта пачатку XVI стагоддзя, акрамя славутай «Песні пра зубра», ёсць яшчэ паэмы «Іакінф», «Турэцкая вайна» і некалькі меншых вершаваных твораў, у тым ліку «Песня да боскага Севасцяна».**

**Калі М. Гусоўскі быў у складзе пасольства караля Сігізмунда І у Італіі, там, у Рыме, успыхнула эпідэмія чумы. У вершы, напісаным памерам сапфічнай страфы, паэт малюе карціны бедства. І, як сведка, паказвае ахвяр хваробы. Падабраны памер адлюстроўвае настрой паэта, асабліва апошнія радкі кожнай страфы нагадваюць перастук малаткоў трунароў. У сучаснай перакладчыцкай літаратуры сапфічны памер перадае дух і форму грэчаскіх і лацінскіх арыгіналаў.**

**Наша літаратурная грамадскасць з захапленнем успрыняла «Песню пра зубра», але, на жаль, толькі спецыялістам вядомы іншыя творы адоранага паэта. Так, М. Грынчык, У. Конан, В. Дарашкевіч у сваіх працах спасылаюцца і прыводзяць урыўкі з «Песні да боскага Севасцяна» ў перакладзе з лацінскай на рускую мову.**

**Наш чытач будзе прыемна здзіўлены тым, што ў роднай літаратуры пачатку XVI стагоддзя ёсць паэтычны твор, у якім побач з яркімі вобразамі і ўзнёслай формай адчуваецца рэзкі, амаль блюзнерскі пратэст супраць несправядлівасці «неба» — прыгавору пакараць «дзяцей без граху» страшэннымі пакутамі.**

**ПЕРАКЛАДЧЫКІ.**

Мікола **ГУСОЎСКІ**

# *Да боскага Севасцяна*

Я, ціхі і ўстрывожаны, просьбы словы
З болем шлю табе,
Севасцян блажэнны.
Мукі ты спазнаў і цяпер паслухай
Скаргу нашых стогнаў!
Хіба скажаш ты, вартавы народу,
Грозны бацька наш, што забыў ты міласць.
Цэнны дар заўсёды прыносіў храму
Рымскі люд спрадвечны.
Бачыш сонца бляск у тварца сусвету,
Наша гора скрыць пажадаў у тайне,
Слухаць хочаш енк чалавечы марна
І нам не адкажаш?
Вось шалёны страх пагасіў надзеі,
Мор паветра гоніць на няшчасных дзетак.
Тых труна чакае, хто застаўся ў краі.
Гіне ўсё жывое.
Мноства нашых людцаў трапіла у ямы,
Чумны вецер здзьмуў іх, дол ім даў прытулак;
Гінулі у Тыбры, падалі ад бегу.
Тут паўсюль магілы.
Бачыш брыдкіх ліс, якія жруць няшчадна
Гронкі вінаграду, што ў садах паспелі.
Вочы гаснуць, косці будуць грызці злосна,
Зубы ў іх кручкамі.
Корм — сабакам лютым, жудасныя словы;
Ежа — птахам, знікнуць зараз мне патрэбна!
Тысяча няшчасцяў, як навала, мучыць
Кожнае балюча.
Чуцен тупат ног, і натоўп бязглузды
Гоніць прывід, смерць, а у сэрцы — жудасць.
Дзе набожнасць, каб пахаваць памёршых?
Дзе шукаць?—не знойдзеш!
Хто заразы яд пашыраць захоча?
Сам хто захоча развітацца з сонцам?
Дасць сябе іклам раздзіраць звярыным?
Смерць жа не забава!
Вестка аб хваробе прыцягне дазоры.
Цалкам немагчыма заплаціць агідны
Лёсу доўг, і шкоду прынясуць жывому
Косці неўцалелых.
Дом не бачны ў цемры, смуткам апавіты,
Не ўдасца выйсці, зносіны мець нельга.
Ежу падаюць з цяжкасцю праз вокны,
Бедная ўся ежа.
Бацька вусны сына заціскае моцна,
Каб стагнанне глухла, памірала ў горле,
Плача муж, рукамі хворай жонцы шыю
Душыць, нібы вораг.
Спроба багацеяў ад бяды схавацца,
Мор напасцю б'е па хаціне бедных.
Можа, сілай грошай адагнаць заразу —
Боскія праклёны?
Шэсце — нібы скруха папаўзла ўздоўж вуліц,
Людзі ўсе нясуць абразы святыя,
Свечкі у руках, дым напоўніў плошчы,
Чадна і ў завулках.
Пугі да крыві рассякаюць спіны,
Чутна, б'е бізун, пісягі крывавяць,
І бліжэй усё шум, працінаюць вушы
Свісты, крыкі, стогны.
Нельга захапіцца чарамі дзяўчыны,
Цела пакрываюць брудныя анучы,
Крык старых жанчын, і чуваць маленне
У натоўпе смутным.
Плач, рыданні, енк скрозь куткі запоўніў,
Скаргі, стогны, лямант чуліся ў паветры.
Кроў сцякае па вяроўках жорсткіх —
Шрамы жах і раны.
Дык няўжо дарэмна нашае маленне?
І патокі слёз не змякчаць пакуты,
І кроў не зможа, брук наскрозь змачыўшы,
Гора наша зменшыць?
Бачыш, як дзіцятка беднае хварэе,
Мукі пекла дзеці трываюць і гінуць.
Ім патрэбна ласка. Пашкадуй маленькіх,
Высушы ім слёзы!
Чуеш, між чужымі мы ўзнімаем голас,
Выслухай ты просьбу нашую прыхільна.
Не закрый вушэй для прышэльцаў краю —
Царства халадэчы!
Хай пасольства працу паспяхова скончым,
Хай мы да радзімы вернемся ў здароўі,
Каб мы тваю ласку і літасць здалелі
Славіць век пакорна!

Пераклалі з лацінскай
Юрась СВІРКА,
Якуб ПАРЭЦКІ.

